# СВАБОДА

26 траўня 1995 г.

№21

Кошт 300 рублёў


## БНФ пра вынікі рэфэрэндуму

**Сойм партыі БНФ прыняў заяву, у якой адзначаецца, што рэфэрэндум у Беларусі праводзіўся ў антыдэмакратычных абставінах і гэта "робіць ягоныя вынікі заведама нелегітымнымі і не дазваляе прызнаць іх за рэальнае волевыяўленьне народу".**

Падкрэсьліваецца, што дзяржаўныя сродкі інфармацыі "вялі аднабаковую паклёпніцкую прапаганду ў інтарэсах пазіцыі прэзідэнта і ягонай групы. Адбылася масавая дэзінфармацыя. Грамадзтва ня мела магчымасьці знаёміцца з альтэрнатыўнымі поглядамі. Антыбеларускія сілы імкнуліся пазбавіць народ выбару, і гэта ў асноўным было дасягнута". Адзначаецца таксама, што ў сельскай мясцовасьці галасаваньне па пытаньнях рэфэрэндума было сфальсіфікаванае шляхам завышэньня колькасьці тых, хто прыняў удзел у галасаваньні.

М.Г.

## Памежны слуп давядзецца выкопваць бязь Ельцына

**Даўно ня бачылі жыхары Дубровенскага раёну такога аўралу, які адбываўся на працягу апошніх дзесяці дзён каля вёскі Рэдзькі.**

Тут знаходзіцца мытны пункт беларуска-расейскай мяжы. Зь Менску паступіў загад падрыхтавацца да прыезду сюды Б.Ельцына з А.Лукашэнкам, каб ва ўрачыстай абстаноўцы "ліквідаваць мытныя перашкоды і адкрыць граніцы" (два прэзідэнты, як планавалася выкапаюць зь зямлі сімвалічны межавы слуп).

Раённая камунальная служба нарэшце сабрала і вывезла ўсё сьмецьце, якое за час доўгіх стаянак пакінулі пасьля сябе шафёры і пасажыры транзітных аўтамашын. Каб хутчэй навесьці марафет, да справы падключылі тэхніку дзьвюх мясцовых ПМК. Разам з брудам і сьмецьцем зьнік таксама прыдарожны ельнік (яго высеклі). А зямлю каля шашы засеялі травою, якая да прыезду высокіх гасьцей павінна была зазелянець.

У вёсцы Буда хуценька перарабілі сьціплую сталоўку ў нешта накшталт рэстарану, дзе меркавалася, што прэзідэнты дзьвюх краін вып'юць па кілішку за адзіную эканамічную прастору.

Аднак у апошні момант высьветлілася, што Ельцын не паедзе на мяжу выцягваць слуп. Прэзідэнт Расеі вырашыў адляцець у Маскву адразу пасьля сустрэчы лідараў краін СНД.

Барыс ХОЛАД



## Алег Груздзіловіч: "Пераможа прэзідэнта той, хто яго палюбіць"

*стар. 4*

## Кола паліцэйскай дзяржавы праехала па сьпінах студэнтаў

**У сераду 24 траўня пад вокнамі прэзідэнцкай адміністрацыі студэнты Белдзяржуніверсітэту правялі акцыю пратэсту супраць рэфэрэндума.**

Падзеі разгортваліся наступным чынам. А 15-й гадзіне звыш ста студэнтаў сабраліся каля ўваходу ў будынак гістарычнага факультэту БДУ. Затым юнакі і дзяўчаты сталі ў ланцуг і, заклаўшы рукі за галаву, моўчкі рушылі да рэзідэнцыі прэзідэнта. Гэты сімвалічны шпацыр "палітычных вязняў" двойчы прайшоўся пад вокнамі Лукашэнкі. Наперадзе ішоў хлопец, які трымаў БССРаўскі сьцяг зь сярпом і молатам, апусьціўшы яго да зямлі. Пасьля калона рушыла да сквэру, што знаходзіцца побач з прэзідэнцкім палацам, і адзін са студэнтаў вывесіў савецкі сьцяг над прыбіральняю. Потым студэнты парвалі сьцяг на кавалкі і спалілі пад заклікі "Жыве Беларусь!".

Магчыма, гэтым акцыя і скончылася б. Але яе прадоўжылі амонаўцы, якія падрулілі да сквэру на двух аўтобусах. Яны акружылі месца, дзе яшчэ стаялі некалькі дзясяткаў студэнтаў (а таксама выпадковыя прахожыя) і пачалі дубінкамі біць людзей. Таго, хто спрабаваў абурацца, хапалі і закідвалі ў аўтобус. Я стаяў у некалькіх кроках ад гэтай бойкі і бачыў як адзін са студэнтаў вырваўся і пабег. Але яго дагнаў амонавец і ўдарыў нагою ў сьпіну. Той упаў. На хлопца накінуліся тры грамілы і пачалі круціць рукі, каб надзець наручнікі. Мяне вельмі зьдзівіла зь якім зьвярыным выразам твару гэтыя моцныя, добра натрэніраваныя спэцназаўцы зьдзекаваліся над юнаком. Кожны зь іх, хто кулаком, хто нагою намагаўся як мацней яго стукнуць. Побач іншыя амонаўцы зьбівалі мастака Алеся Цыркунова толькі за тое, што ён спрабаваў сфатаграфаваць апэрацыю захопу. Білі ня толькі дарослых. Я бачыў, як амонавец ударыў дубінкаю па сьпіне школьніка і штурхнуў яго ў бок аўтобуса. Як потым даведаўся, дзеці апынуліся там зусім выпадкова. Яны вучацца ў сярэдняй школе №75 і ішлі дамоў з заняткаў.

Міліцыянты захапілі каля трыццаці студэнтаў і дзьвюх сталых жанчын.

Віктар ВАЛАДАШЧУК

## Біць проста, але прызнацца страшна

**Пракуратура рэспублікі атрымала відэастужку з запісам падзеяў ночы з 11 на 12 красавіка у авальнай зале дома Ураду.**

Пра гэта паведаміў старшы сьледчы па асабліва важных справах пры Генэральным пракуроры Язэп Бролішс. Стужка атрымана з Адміністрацыі прэзідэнта з суправаджальным дакумантам, падпісаным намесьнікам начальніка ўправы грамадзка-палітычнай інфармацыі Валерыем Хараўцом.

Аднак Я.Бролішс сказаў, што відэаматар'ял, выкананы ў выглядзе грубага мантажу з арыгінала, ня ўтрымлівае колькі-небудзь каштоўнай для следзтва інфармацыі: ён складаецца зь некалькіх, не зьвязаных паміж сабою, фрагмэнтаў агульнай працягласьцю каля гадзіны і абрываецца да таго, як з залы паседжаньняў Вярхоўнага Савету пачалі эвакуяваць галадаўшых там народных дэпутатаў. Прадстаўленьне пракуратуры відэазапісу ў такім выглядзе Язэп Бролішс, які займаецца расьследаваньнем абставін той ночы, кваліфікаваў як факт непавагі да сьледзтва.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ
*БелаПАН*


Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990

Рэдакцыйная Рада

Заснавальнік Павал Жук

Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd."

Наклад 93 000



Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул. Іванаўская, 56

Тэл./факс 36-24-41


## Заява Дзярждэпартаманту ЗША

**16 траўня 1995 г. прэс-сакратар Дзярждэпартаманту ЗША Нікалас Бэрнс выступіў з заявай наступнага зместу адносна рэфэрэндуму і выбараў у вышэйшы заканадаўчы орган Рэспублікі Беларусь:**

"14 траўня Рэспубліка Беларусь правяла нацыянальны рэфэрэндум і першыя парламанцкія выбары з моманту абвяшчэньня незалежнасьці. Некалькі міжнародных групаў назіральнікаў, у тым ліку Парламанцкай асамблеі Арганізацыі бясьпекі і супрацоўніцтва ў Эўропе, распаўсюдзілі заявы, зь якіх вынікае, што выбары не адпавядалі ўсім міжнародным нормам забесьпячэньня іх свабоднага і справядлівага характару. Міжнароднымі назіральнікамі былі, у прыватнасьці, адзначаныя абмежаваньні ў дзейнасьці палітычных партыяў, недасканаласьць закону аб выбарах і адсутнасьць свабоды прэсы. Урад Беларусі кантраляваў асноўныя друкаваныя і электронныя сродкі масавай інфармацыі, зачыніў незалежны тэлевізійны канал, зьмяніў рэдактараў чатырох вядучых газэт і навёў паклёп на некаторыя апазіцыйныя сілы. Свабодныя і справядлівыя парламанцкія выбары зьяўляюцца важнейшай састаўной часткаю працэсу дэмакратызацыі і палітычных рэформаў. Мы выказваем шкадаваньне з прычыны таго, як і ў якой абстаноўцы кіраўніцтва Беларусі правяло выбары і рэфэрэндум".

З ацэнкай Дзярждэпартаманту пагадзіўся Орэст Дзечакіўскі, прадстаўнік камісіі па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Эўропе, якая дзейнічае пры кангрэсе ЗША . "Наша думка грунтуецца на той інфармацыі, якую мы атрымліваем ад міжнародных назіральнікаў у Беларусі. Яшчэ напярэдадні выбараў мы зьвярталі ўвагу на шэраг праблем, якія ўзьнікалі падчас перадвыбарчай кампаніі — закрыцьцё тэлестанцыі, абыходжаньне з парламантарамі, якія аб'явілі галадоўку пратэсту. Складваецца ўражаньне, што на працягу апошніх месяцаў працэс палітычных рэформаў у Беларусі запаволіўся, а ў ходзе выбарчай кампаніі, магчыма, нават адбыўся крок назад. Відаць манэра правядзеньня выбараў можа прывесьці да пагаршэньня амэрыканска-беларускіх дачыненьняў. Можна сказаць, што на адносіны паміж дзьвюма краінамі будзе кінуты цень. У любым выпадку, я ня бачу іншага сцэнару разьвіцьця падзеяў. Поўнага распаду сувязяў не адбудзецца, але пагаршэньне будзе заўважным", — заявіў сп.Дзечакіўскі.

*USIA, ИТАР ТАСС*

## Выпісаў СВАБОДУ і галава не баліць

**У другой палове года газэта СВАБОДА будзе выходзіць 2 разы на тыдзень.**

**Падпісны кошт у Менску:**
**на адзін месяц — 7 200 руб.,**
**на 3 месяцы — 21 600 руб.**

**Па рэспубліцы:**
**на месяц — 4 500 руб.,**
**на квартал — 13 500 руб.**

**Падпіска заканчваецца 31 траўня**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газэту 63887

СВАБОДА

Колькасьць камплектаў

На 1995 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ________ (паштовы індэкс) (адрас)

Каму ________ (прозьвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА на газэту 63887

СВАБОДА

| Кошт | падпіскі ____ руб. ____ кап. | Колькасьць камплектаў |
|---|---|---|
| | пераадрас. ____ руб. ____ кап. | |

На 1995 г. па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ________ (паштовы індэкс) (адрас)

Каму ________ (прозьвішча, ініцыялы)

*Сёньня*

Сяргей ДУБАВЕЦ

# Адзін

Адзін чалавек сканцэнтраваў у сваіх руках усю палітычную волю, якая толькі ёсьць у Беларусі. Усе астатнія з жахам і захапленьнем назіраюць за ягонай заўзятай гульнёй, як ён упакоўвае цэлую краіну ў патрэбныя яму колеры, фарматы і маштабы. Адзін. Ну, дае! І як гэта ў яго спрытна выходзіць!..

Адразу відаць, што за ім стаяць звышпадрыхтаваныя і звышцынічныя маскоўскія гэбісьцікі — аўтары сцэнароў, якія для нашай рахманай "сельской местности" выглядаюць на касьмічны злом галавы. Напрыклад, дэталёва прадуманы і з посьпехам праведзены сцэнар выбарчай кампаніі. Прэзідэнт блефаваў байкот выбараў, чым прымусіў апазіцыю стаць гарачымі абаронцамі выбарчай кампаніі. Яны паслухмяна пайшлі ў бой, які ўжо нічога для Беларусі не вырашае. Яны разумеюць, што новы ВС, у які яны хутчэй за ўсё ня пройдуць (бо людзі ня прыйдуць, а калі прыйдуць — ня іх людзі), будзе камуністычны і антыбеларускі, і тым ня менш ідуць, бо "парламэнт — гэта трыбуна, зь якой шмат чаго можна сказаць"...

Дзіўная логіка ў тых, хто ня мае палітычнае волі. Не параўнаць з лагічнымі, выверанымі, каварнымі хадамі Аднаго. Сёньня ў каго воля — у таго й логіка. Апазіцыя паводзіць сябе дакладна так, як ёй вызначана ў сцэнары прэзідэнта. Самае страшнае для яго, каб артысты не пачалі раптам імправізаваць, бо тады ў іх будзе свая воля і логіка. Ну, напрыклад, каб апазіцыйныя дэпутаты за два дні да другога туру не паздымалі свае кандыдатуры ў знак пратэсту супраць гвалту над Канстытуцыяй, супраць абдурваньня народу, супраць саміх гэтых недэмакратычных выбараў зь іх вядомым фіналам. Што б гэта значыла? Зрыў выбараў? Хуліганства за хуліганства? Магчымасьць падвысіць свае шанцы ў іншай акрузе пры паўторных перавыбарах? Галоўнае — гэта зрыў логікі Аднаго, зьяўленьне на палітычным майдане іншае палітычнае волі. Магчыма, аднога гэтага зрыву хопіць, каб ён запсіхаваў, каб разьлічаны гэбісьцікамі сцэнар ліквідацыі Беларусі і беларушчыны даў крукяля, зьбіўся, прапаў!

Памятаеце, дзе схаванае жыцьцё Зьмея Гарынавіча? А ў тым, што Адзін — гэта якраз такі казачны пэрсанаж, няма і не можа быць сумневу. Ужо таму, што ён адзін і ня вынесе кагосьці валявога побач з сабою. Таму няма ў яго ні сяброў, ні ўстойлівае каманды, і нават жонка ягоная супраць яго. І скача ён як наравісты злы дух па вывераный курвімэтрамі маскоўскіх гэбістаў тонкай траекторыі, і ўсё яму ўдаецца толькі датуль, дакуль іншы пэрсанаж гэтай самай казкі ня выхапіць зь яйка запаветную іголку.

Ведае Адзін, што ніколі не ўжывецца ні зь якім новым парламэнтам — нават самым кішэнным. І таму ўсе планы ягоныя мусяць зьдзейсьніцца да таго, як той парламэнт са сваёй чароўнай трыбунай набярэ кворум.

А таму самае страшнае для яго — гэта прэс-канфэрэнцыя БНФ, у гэтую пятніцу, пасьля абеду, на якой прадстаўнікі апазіцыі дагаварацьць нарэшце свой сказ пра узурпацыю ўлады, недэмакратычныя выбары і незаконны, сфальсіфікаваны рэфэрэндум. А пад канец скажуць тое, чаго затоена й вусьцішна будзе чакаць Адзін:

"Ня хочам мы больш скакаць пад дудку нячыстай сілы. Адмаўляемся мы граць у гэтым сцэнары. У нас свой сцэнар ёсьць. І з гэтага моманту абвяшчаем мы ў Беларусі сваю беларускую волю!"

І так станецца...

## Апазіцыя можа знайсьці новых сяброў

**Як бы не намагаліся прэзідэнцкія палкоўнікі спэкуляваць паразаю на выбарах кандыдатаў ад БНФ, відавочна, што наступная парламанцкая апазіцыя пасьля другога туру можа знайсьці новых сяброў.**

Ужо зараз пра гэта можна гаварыць на аснове аналізу праграмаў і публічных выступаў асобных кандыдатаў зь ліку "беспартыйных". Напрыклад, у Горадні ў адной з акругаў выйшаў у другі тур пракурор Кастрычніцкага раёну Пётар Урублеўскі. Нягледзячы на прыналежнасьць да ўлады, ён адкрыта займае патрыятычную пазіцыю, прапаведуе дэмакратычныя погляды. Такім чынам, Беларусь сапраўды жыве, калі нават работнікі праваахоўных органаў усьведамляюць сваю нацыянальную прыналежнасьць.

Супернікам сп.Урублеўскага па выбарах зьяўляецца сумна вядомы Аляксандар Фядута, "беспартыйны левы" (нібыта левы можа быць беспартыйным?!). Будзем спадзявацца, што выбаршчык прагаласуе супроць яго і падтрымае сапраўднага патрыёта.

Тацьцяна ПРАДЗЕД

## Сяргей Леўшуноў аддае свае галасы Людміле Гразновай

**Вядомы вучоны Сяргей Леўшуноў, які балатаваўся ў Менску па Захар'еўскай акрузе (той самай, дзе была рэкордная колькасьць кандыдатаў), на жаль, не прайшоў у другі тур.**

Між тым, ён набыў некалькі тысяч аднадумцаў і добрых сяброў. Усіх сваіх выбаршчыкаў С.Леўшуноў заклікае галасаваць у другім туры за кандыдата эканамічных навук Людмілу Гразнову — дацэнта БДУ, намесьніка старшыні Аб'яднанай дэмакратычнай партыі. Яна бліскуча правяла сваю перадвыбарчую кампанію і дадала да іміджу вядомага эканаміста і палітыка рысы выдатнага арганізатара.

К.Д.

## Дапаможам доктару!

**У рэдакцыю СВАБОДЫ зьвярнулася спадарыня Дрык Л.А. (кандыдат ад Партыі БНФ), якая балатавалася ў Вярхоўны Савет па Івацэвіцкай выбарчай акрузе.**

Яна ўдзячная тым, хто падтрымаў яе на выбарах і просіць сваіх выбаршчыкаў у другім туры прагаласаваць за Рыжко І.М. (доктара, беспартыйнага).

# Пераборлівыя выбаршчыкі

**Парламанцкія выбары засьведчылі, што кандыдаты і палітычныя сілы арыентуюцца на нейкі ідэальны вобраз беларускіх выбаршчыкаў.**

Між тым галасаваньне паказала, што нашае грамадзтва вельмі палярызаванае. Адныя галасуюць толькі за камуністаў, іншыя — за БНФ. А пасярэдзіне застаецца вялікая частка людзей з больш памяркоўнымі альбо зусім няпэўнымі паглядамі. Здавалася б, яны будуць галасаваць за больш нейтральных кандыдатаў — прадстаўнікоў лібэральных, цэнтрысцкіх сілаў. Аднак выбары паказалі, што і гэтыя палітыкі маюць няшмат прыхільнікаў.

Чаму? Цяжка адказаць на гэтае пытаньне лагічна і адназначна. Але варта зьвярнуцца да вынікаў сацыялагічнага апытаньня, якое праводзілася напярэдадні выбараў у розных рэгіёнах Беларусі. Безумоўна, вынікі апытаньняў розныя, але адказы рэспандэнтаў можна прывесьці і да нейкага сярэдняга значэньня.

Калі гаварыць пра вядомасьць партый, дык абсалютная большасьць апытаных звычайна называе БНФ, бо Фронт ведаюць амаль усе. Тым часам ПКБ згадваюць радзей. Што датычыць асабістага выбару, дык найбольш — прыкладна 14% прагаласавалі б за прадстаўніка Народнага Фронту, а па 11% — за камуністаў і аб'яднаных дэмакратаў.

Аднак самым цікавым зьяўляецца наступнае. Толькі 19% выбаршчыкаў засьведчылі, што абавязкова на выбарах будуць зважаць на партыйную прыналежнасьць кандыдата. Усяго пятая частка! Задумайцеся, палітыкі, над гэтым фактам...

Добра, каму ж тады і паводле якіх крытэрыяў апытаныя выказваюць прыхільнасьць? Большасьць лічыць, што ў новым парламанце шырэй павінны быць прадстаўленыя кіраўнікі дзяржпрадпрыемстваў і прадпрымальнікі, але тым жа часам сваім дэпутатам звычайна яны хацелі б мець эканаміста або юрыста. 62% выбаршчыкаў аддаюць перавагу дэпутатам-мужчынам і толькі 5,6% выказаліся на карысьць жанчын. Такім чынам, людзі ў нас застаюцца кансэрватыўнымі, яны лічаць, што палітыка — не жаночая справа.

А вось якія прыярытэты, на думку апытаных, павінны адстойваць іхныя дэпутаты. Большасьць выбаршчыкаў выступае за паскарэньне прыватызацыі. Аднак палова супраць поўнага пераходу да свабоднага цэнаўтварэньня і рынкавай канкурэнцыі. Нечакана, што большасьць ня супраць закрыцьця нерэнтабэльных прадпрыемстваў, але адначасова патрабуе не дапусьціць росту беспрацоўя. Часьцей рэспандэнты выказваліся за пераразьмеркаваньне прыбыткаў паміж багатымі і беднымі (за — 34%, супраць — 24%).

Вельмі сумна, што ўмацаваньня сувэрэнітэту і незалежнасьці Беларусі жадае 24%, а супраць гэтага — 62%. Адначасова за аднаўленьне СССР практычна 47% (супраць — 38%).

Што датычыць каштоўнасьцяў, важных для кожнага з апытаных асабіста, дык 65% на першае месца ставяць дабрабыт, 56% — трывалую сям'ю, 40% — сацыяльную справядлівасьць. Наяўнасьць моцнай дзяржавы назвалі толькі 40% апытаных. Але зь іх толькі 19% мелі на ўвазе незалежную Беларусь. 27% жадае Беларусі далейшага ўмацаваньня сацыялізму, і толькі 18% лічаць, што нам варта імкнуцца да капіталістычнага ладу жыцьця. А большасьць лічыць, што нам патрэбна штосьці сярэдняе.

І апошні момант. На пытаньне: "Калі сітуацыя на Беларусі будзе пагаршацца, то што вы будзеце рабіць?" — адказы разьмеркаваліся наступным чынам. Палова будзе цярпліва чакаць лепшага часу. Амаль чвэрць пачне самастойна шукаць спосабу палепшыць жыцьцё. Дзесятая частка — эмігруе. Усяго крыху больш за 3% далучыцца да палітычных партый. А каля 3% прызналіся, што ў такой сітуацыі будуць вымушаныя ўзяцца за зброю.

Сяргей МАКСІМОВІЧ

## Не забылі, не адракліся...

**25 траўня ля помніка Максіму Багдановічу ў Менску сабраліся людзі, каб ушанаваць памяць паэта ў дзень ягонай сьмерці.**

Былі прыгаданыя словы класіка беларускай літаратуры: *"Агляніцеся: усё наша, беларускае, марнуецца, нішчыцца, зьнікае, бо яго забіваюць, яго прыглушаюць, ім пагарджаюць, а чужое пануе, пашыраецца, мае сабе пашану і павагу. І — хто ведае? — быць можа пройдзе колькі часу, і не пазнаем мы ані нашага краю, ані нашых дзяцей. І будзе скрозь усё чужое, нязвычнае, а свайго роднага — нічога.*

*Дык няхай жа ня станецца так!"*

(М.Багдановіч. Хто мы такія? Ліст да простых людзей.)

П.К.

# Ачысьціліся...

**У аўторак 23 траўня рэзідэнцыя прэзідэнта і будынак Вярхоўнага Савету "ачысьціліся" ад Пагоні.**

Калі ў першым выпадку ўсё зразумела (іншага ад "ачышчэнцаў" і чакаць не даводзілася), то з будынкам парламанту справа складаней. Усё ж я ён увасабляе заканадаўчую ўладу краіны, а новага закона аб дзяржаўных сімвалах няма, цяперашні ж закон ніхто не скасаваў. Вынікі рэфэрэндума лічацца падставай для разгляду пытаньня Вярхоўным Саветам, але пакуль рашэньне не прынята. Навошта ж сьпяшацца? Ці не цывілізаваней было б усё зрабіць па закону, па-людзку?

Як вядома, будынак Вярхоўнага Савету ўжо трапіў у гаспадарку кіраўніцтва справамі адміністрацыі прэзідэнта. Такім чынам, што будзе вісець на франтоне парламанта, вырашае не кіраўніцтва Вярхоўнага Савету, а таварыш Ціцянкоў. Атрымліваецца, што гаспадарчая служба вельмі ўдала дыскрэдытуе заканадаўчую ўладу, менавіта парламант, які павінен адстойваць непахіснасьць закона, як у вачах грамадзян Беларусі, так і за яе межамі.

Ёсьць яшчэ адзін момант. Зразумела, што прэзідэнт хоча прадэманстраваць удзельнікам нарады кіраўнікоў СНД сваю перамогу, але гэта імпрэза са зьняцьцем герба і зьяўленьнем сімволікі камуністычных часоў цалкам выдае палітычныя мэты беларускага кіраўніцтва і тых, хто яго падтрымлівае. Такі "парад інтарэсаў" наўрад ці сьведчыць аб павазе да ўсіх гасьцей, што зьедуцца ў Менск. Пагадзіцеся, дрэнна будзе адчуваць сябе чалавек, якога запрасілі на вечарыну, дзе пачалі ганіць ягоных сваякоў. Але, як бачым, Лукашэнку такія нюансы ўжо нават не палохаюць. Наадварот.

Што асабіста мне нагадвае гэты здымак? Тое, што працягваецца паляваньне на шыльды, ганаровыя дошкі, памятныя знакі з каляровага мэталу. Толькі зараз у гэтым паляваньні ўдзельнічае яшчэ і дзяржава. Дзікае паляваньне, для якога ўжо не хапае начнога часу.

Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ



# У Сьветлагорску заварушыліся. Справу давядзецца працягнуць

**Артыкул пра махінацыі начальства ў г.Сьветлагорску, які быў апублікаваны ў СВАБОДЗЕ тры тыдні таму, выклікаў у горадзе вялікі рэзананс. Першай адрэагавала мясцовая мафія.**

Невядомы ананім пазваніў на хатні тэлефон галоўнага рэдактара газэты і нахабна заявіў, што "мы разберемся с тобой, если будеш лезть куда не надо". Рэдактар пажадаў працягнуць размову, каб даведацца, куды менавіта лезьці ня трэба. Аднак на тым канцы дроту чалавек захваляваўся і, прыгразіўшы яшчэ раз, паклаў трубку. Карацей, у Сьветлагорску заварушыліся. Гэта значыць, што на хвост мы ім троху наступілі. І тут ужо справа нашага гонару добра прыціснуць гэты хвост, каб раптам не падумалі, што іхныя пагрозы спынілі нас. Таму Сьветлагорск будзе для газэты СВАБОДА горадам асаблівай увагі. Надта цесна тут усё пераплялося, бо сістэма застаецца фактычна некранутаю яшчэ з даперабудовачных часоў. Праўда, частка людзей пайшла адсюль у абласныя і сталічныя кабінэты, але ў выніку гэтага сістэма толькі ўмацавалася: калі трэба, то наверсе ёсьць каму прыкрыць. І цяпер яны не баяцца ні Бога, ні д'ябла.

Зразумела, што падобная сітуацыя характэрная і для іншых гарадоў. Аднак Сьветлагорск выдзяляецца тым, што начальства тут не сварыцца: паміж гарадзкімі і раённымі ўладамі, дырэктарам, праваахоўнымі органамі існуе поўнае паразуменьне. І нават калі нехта зь іх пападаецца, то сябры (альбо грошы) заўсёды дапамогуць.

Напрыклад, Гомельская абласная міліцыя нядаўна ўзбудзіла крымінальную справу (за крадзёж у асабліва буйных памерах) па факту таго, што кіраўніцтва Сьветлагорскай ТЭЦ фактычна падаравала 1 мільярд рублёў фірме "Ратон" з Кабардзіна-Балкарыі. Гэтая фірма атрымала з ТЭЦ буйную партыю тэкстыльных нітак без усялякай папярэдняй аплаты (што само па сабе дзіўна ў наш час). Але яшчэ больш дзіўна тое, што прайшло ўжо некалькі месяцаў, але грошы ў Сьветлагорск так і не прыйшлі, а фірмы і след прастыў. У афармленьні гэтай зьдзелкі ўдзельнічалі таксама работнікі гарадзкой міліцыі. І ў выніку: не пасьпелі ўзбудзіць крымінальную справу, як мясцовы сьледчы нехта Русакевіч хуценька прыпыніў яе. Дырэктар ТЭЦ Барбук і галоўны бухгалтар Казлоўская засталіся задаволеныя.

Яшчэ прыклад. Летась Сьветлагорскае аб'яднаньне "Хімвалакно" пералічыла італьянскай фірме 20 тысяч даляраў за станок. Да гэтага часу — ні станка, ні грошай. Хаця ў кантракце (яго падпісаў ад "Хімвалакна" шэф зьнешнеэканамічных сувязяў Надзеждзін) тэрмін пастаўкі абумоўлены адным месяцам. На чым валютным рахунку аселі гэтыя грошы высьветліць бадай што немагчыма.

Вельмі арыгінальную справу правярнуў нядаўна і начальнік камэрцыйнага цэнтра Сьветлагорскага цэлюлозна-кардоннага камбіната Ладыгін. Ён закупіў у фірмы з Мурманска партыю сапсаваных селядцоў на 270 мільёнаў рублёў. Каго Ладыгін зьбіраўся карміць гэтай рыбай — невядома. Бо кажуць, што тыя селядцы нават сьвіньні есьці ня хочуць. А ці ня дзіўна, што камбінат, які мае 28 мільярдаў запазычанасьці за энэргарэсурсы і ня можа выплаціць зарплату рабочым, раптам купляе (дзякуючы намаганьням таго самага Ладыгіна) шыкоўны аўтамабіль "Вольва" амаль за 50 тысяч даляраў...

А вось адваротны бок мэдаля. Інвалід вайны В.Маркітан са Сьветлагорска даслаў нядаўна ў адну менскую газэту ліст пра тое, як у дзень 50-годзьдзя Перамогі начальства віншавала вэтэранаў: "Сабралі нас усіх у Палацы культуры хімікаў. Многія з хваляваньнем чакалі ўрачыстага ўручэньня, віншаваньняў і проста цёплых словаў. Але ўсё было вельмі проста — каля сьпісаў, па якіх павінны былі ўручаць вэтэранам юбілейныя мэдалі, стаяў натоўп. Мэдаль проста аддавалі, а разам зь ім — талон на сто грамаў гарэлкі. І як у блакадным Ленінградзе, адстаяўшы чаргу, вэтэраны атрымлівалі свае 100 грамаў і булачку. Праглынуўшы ўсё гэта і вярнуўшы шклянку, я са зьдзіўленьнем пабачыў, што ў тую самую шклянку налівалі наступнаму!"

**Іван СІДАР**

## Справіліся без гасьцей

**На 25 траўня ў Горадні планавалася правядзеньне прадстаўнічага рэспубліканскага сэмінару, прысьвечанага сельскай гаспадарцы.**

Меркавалі, што ўдзельнічаць у ім будзе самае высокае начальства. Мабыць таму, што прэзідэнт Лукашэнка ніяк не наважыцца наведаць Горадню, дык папаўзьлі чуткі, што прыедзе менавіта ён. А тым больш сэмінар меў быць прысьвечаны цукровым буракам, у якіх прэзідэнт, відаць, па-ранейшаму няблага разьбіраецца. На карысьць гэтай вэрсіі таксама сьведчыла тое, што сэмінар павінен быў адбыцца на базе калгасу "Прагрэс". Людзі гаварылі, што старшыня аблвыканкаму А.Дубко хоча там сустрэць прэзідэнта калгаснымі пачастункамі.

Сэмінар, аднак, спачатку перанесьлі на 26-га, потым на 27-га, затым увогуле адклалі, а сп.Дубко даваўся самому ехаць на нараду ў Менск. Спадзяемся, што гэтым разам даволся пазьбегнуць канфузу, які здарыўся ў Горадні крыху раней.

Рэч у тым, што мітрапаліт Філарэт таксама вельмі любіць адкладаць свае візіты ў Горадню. Нядаўна ў былым вуніяцкім, а сёньня праваслаўным кляштары падрыхтавалі хлебасольную сустрэчу Філарэта, сталы ажно прагіналіся ад дэлікатэсаў. Аднак уладыка затрымаўся на некалькі дзён у сталіцы, а манашкі і сьвятары паспрабавалі ўсе стравы, каб ежа не сапсавалася. Пад'елі, як кажуць, ад пуза.

**С.М.**

## Навошта Жыгімонту кампутар?

**Фірма "Дайнова" правяла ў Горадні сэмінар-прэзэнтацыю сучаснай кампутарнай тэхнікі пры ўдзеле вядомых замежных фірмаў, зь якімі яна супрацоўнічае.**

Візітоўкай імпрэзы была выява караля Жыгімонта Аўгуста з кампутарам. Гэта выглядала дастаткова натуральна, бо сэмінар адбываўся ў тэатры Тызэнгаўза, пабудаваным яшчэ ў часы існаваньня Вялікага княства Літоўскага. Асаблівасьць мерапрыемства — удзел у ім ансамбля яўрэйскай музыкі.

Прэзідэнт "Дайновы" Адам Палюховіч паведаміў, што славутая фірма "Філіпс" спрэзэнтавала ім 70 тыс. даляраў. Гэтыя грошы прызначаныя для адкрыцьця супольных крамаў у Берасьці і Горадні. Маркуюць, што гарадзенская крама адчыніцца ўжо напрыканцы чэрвеня.

**С.А.**

## За страйкам — страйк

**На Бабруйскім машынабудаўнічым заводзе імя Леніна адбыўся стыхійны страйк.**

Спыніліся спачатку тры цэхі, а потым і ўвесь завод. Прычына незадаволенасьці ў тым, што два месяцы рабочыя не атрымліваюць заробку. Тым часам прадукцыі на складах шмат, але яе ніхто не купляе.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Надзейны шлях у дэпутаты

**Пяць былых кандыдатаў у дэпутаты, якія балатаваліся ў Заслаўі, зьвярнуліся зь лістом у камісію сваёй выбарчай акругі.**

Яны заявілі, што іхны канкурэнт Анатоль Зязетка парушыў заканадаўства аб выбарах.

У лісьце адзначаецца, што дырэктар саўгасу "Заслаўскі" Менскага раёну А.Зязетка падчас перадвыбарчай кампаніі "купляў галасы выбаршчыкаў". У прыватнасьці, ён прадаваў насельніцтву па заніжаных цэнах саўгаснае насеннае збожжа, бульбу, мяса у тых мястэчках, дзе знаходзяцца выбарчыя ўчасткі.

Зязетка настолькі захапіўся гандлем дзяржаўным дабром, што ягоная "шчодрасьць" абурыла нават рабочых саўгасу. "Мы неаднаразова зьвярталіся да А.Зязеткі, каб ён прадаў нам па рынкавых цэнах фуражнае збожжа. Але ў адказ чулі толькі зьнявагу, а тут раптам ён прадае маёмасьць налева і направа", — напісалі сяляне ў сваім лісьце ў камісію Заслаўскай выбарчай акругі.

Па фактах гандлёвай дзейнасьці Зязеткі пракуратура Менскага раёну і абласная міліцыя цяпер праводзіць сьледзтва. Па папярэдніх падліках за час перадвыбарчай кампаніі Зязетка прадаў больш за 60 тон збожжа, каля паўтоны ялавічыны і тону бульбы. А цяпер рабочыя саўгасу шукаюць насеньне, каб пасадзіць хаця б 60 га бульбы з запланаваных 80 га. З-за продажу збожжа па заніжаных цэнах гаспадарка страціла каля 18 млн. рублёў.

**Яўген АЛАДКА**

## Новая хваля русіфікацыі

**У школах Гомеля зьявіліся аб'явы адміністрацыі пра пераход з 1 верасьня ўсіх беларускіх класаў на расейскамоўныя праграмы.**

У аддзеле адукацыі Гомельскага гарвыканкаму адмовіліся пракамэнтаваць гэтыя факты.

**І.ШАНЦАВА**

## Ціцянкоў пайшоў у палескія лясы

**Адміністрацыя прэзідэнта стварае экспэрымэнтальную леса-паляўнічую гаспадарку**

Выклікала пратэст у Петрыкаўскім раёне Гомельскай вобласьці рашэньне адміністрацыі прэзідэнта аб стварэньні на базе двух лясьніцтваў экспэрымэнтальнай леса-паляўнічай гаспадаркі.

Плануецца, што гэтая гаспадарка будзе валодаць статусам вытворчай структуры, а лясьніцтвы будуць перададзеныя з балансу лясгасу на баланс Прыпяцкага запаведніка, які падпарадкоўваецца управе справамі адміністрацыі прэзідэнта. На канфэрэнцыі працоўнага калектыву лясгасу адзначалася тое, што прыкрываючыся клопатам пра лес і дзікіх зьвяроў запаведнік хоча атрымаць добрую сыравінную базу (у гэтых двух лясьніцтвах знаходзяцца лясы першай групы, у прыватнасьці дуба), каб палепшыць сацыяльна-побытавыя ўмовы сваіх работнікаў. Гэта, на думку калектыва Петрыкаўскага лясгасу, прывядзе да інтэнсіўнай высечкі леса і адгрузкі каштоўнай драўніны за межы рэспублікі, што, у сваю чаргу, адмоўна адаб'ецца на гаспадарчай дзейнасьці лясгасу і пацягне за сабой значнае зьмяншэньне выпускаемай прадукцыі і скарачэньня колькасьці працоўных месцаў у цэху №1 мястэчка Капцэвічы, размешчанага на тэрыторыі лясгасу.

Аднак нягледзячы на пратэст, старшыня Гомельскага аблвыканкама Павел Шыпук днямі падпісаў загад аб перадачы лясьніцтваў Прыпяцкаму запаведніку.

**СІМ**

## Цукерак шмат ды грошай мала

**На складах гомельскай кандытарскай фабрыкі "Спартак" сабралася 183,5 тоны кандытарскіх вырабаў амаль на 3 мільярды рублёў.**

Адсутнасьць попыту на вырабы гомельскіх кандытараў тлумачыцца ў першую чаргу зьніжэньнем пакупніцкай здольнасьці насельніцтва (62% прадпрыемстваў Гомельшчыны працуюць ня ў поўным рэжыме, што адбіваецца на заробку рабочых).

**СІМ**

## На бальніцу грошай няма

**У райцэнтры Горкі Магілёўскай вобласьці спынена фінансаваньне будаўніцтва хірургічнага корпусу гарадзкой бальніцы.**

Каб завяршыць будоўлю, патрэбна 700 млн. рублёў. Аднак сродкаў не хапае і на звычайную кансэрвацыю пабудаванага. Між тым Горкі і Горацкі раён зьяўляюцца месцам перасяленьня з забруджаных тэрыторыяў. Магутнасьцяў старой бальніцы ўжо хранічна не хапае: насельніцтва расьце за кошт перасяленцаў, а яны, як вядома, людзі не самыя здаровыя.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Прэзідэнт навучыць...

**За гэты месяц у Наваполацку рэзка пагоршылася эканамічная сітуацыя.**

Вялікія праблемы ўзьніклі на нафтаперапрацоўчым заводзе, дзе некаторыя вытворчасьці прадпрыемства спыненыя. На "канікулы" распушчаныя будаўнікі буйнейшага ў рэспубліцы Будтрэста №16. У горадзе пачаў зьнікаць белы хлеб, у крытычным стане гарадзкі транспарт — няма паліва. Грошай у аўтапарку №6 не хапіла нават на зарплату кіроўцам аўтобусаў. Вадзіцелі папярэдзілі кіраўніцтва аб магчымым страйку.

Тым ня менш яшчэ падчас прэзідэнцкай кампаніі на сустрэчы ў Наваполацку кандыдат Лукашэнка зьдзіўляўся, як гэта можа быць — у горадзе ёсьць свой нафтаперапрацоўчы завод, а аўтобусы стаяць бяз паліва. Былы мэр горада Ніякоўскі патлумачыў маладому кандыдату ў прэзідэнты, што за бэнзін трэба плаціць нягледзячы на тое, са свайго ён завода ці з чужога. Лукашэнка паабяцаў навучыць бацькоў горада як здабываць паліва. Аднак з чэрвеня мінулага года ня толькі ня вырашыліся праблемы транспартнікаў, але і ўскладніліся ў нафтаперапрацоўшчыкаў. Расейскай нафты па фіксаваных цэнах яны так і не дачакаліся. Як працавалі так і працуюць на камэрцыйнай. У горадзе нарастае сацыяльная напружанасьць. Відаць таму навапалачане і не пайшлі на выбары (удзел склаў усяго 45,1%). Затое ўжо 18 траўня над Наваполацкім гарвыканкамам залунаў чырвоны сьцяг.

**Тамаш ГУРБА**

## Ці прыдуць навапалачане галасаваць за камуністаў?

**Наваполацкія актывісты БНФ адмовіліся ўдзельнічаць у выбарах у мясцовыя саветы і зьнялі свае кандыдатуры (10 чалавек у гарадзкі савет і 3 у абласны).**

Адпаведныя заявы паступілі ад іх у выбарчыя камісіі. "Паглядзім, як навапалачане сваім удзелам у выбарах падтрымаюць камуністаў", — сказалі прадстаўнікі БНФ карэспандэнту СВАБОДЫ. Змагацца за дэпутацкія мандаты ў гарадзкі і абласны савет у Наваполацку з камуністамі будуць толькі мясцовыя прадстаўнікі АДПБ.

**Васіль КРОКВА**

Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ

# Пераможа прэзідэнта той, хто яго палюбіць

Хаця і кажуць амэрыканцы, быццам няма той праблемы, якую нельга вырашыць, добра падумаўшы, але пытаньне, якое паўстала пасьля беларускага рэфэрэндуму і першага туру выбараў, з самых цяжкіх і пакуль нявырашальных. Як пераможцы прэзідэнта, ня ведае, здаецца, і сам прэзідэнт. Відавочна, што сур'ёзныя кандыдатуры ў выбарчую тактыку ўнесьці не атрымаецца. Кампанія ідзе па інэрцыі першага туру, яе лейтматывам застаецца палітычнае супроцьстаяньне, між тым як у другім туры рэзка ўзрастае роля асобы. Павінна ўзрастаць. Пабачым хутка, хто гэта зразумеў. Але ўсё роўна, агульныя вынікі выбараў ужо абумоўленыя зусім, здаецца, іншай падзеяй — рэфэрэндумам. А ён, як вядома, прайграны.

### Ці быў шанец пазьбегнуць рэфэрэндуму?

Іх было нават два. Апошні — гэта заклікаць прыхільнікаў апазіцыі байкатаваць рэфэрэндум увогуле. Як вядома, у ім прынялі ўдзел 64% маючых права голасу, зь якіх амаль чацьвертая частка не падтрымалі прэзідэнта. Гэтым людзям увогуле ня трэба было браць у рукі бюлетэні па рэфэрэндуму, і той бы не адбыўся. Канечне, у "вэртыкалі" заставалася магчымасьць падняць працэнт удзельнікаў за кошт застаўшыхся пустых бюлетэняў ці іншым спосабам, але сістэма магла і не спрацаваць, бо на многіх участках прысутнічалі назіральнікі. Канечне, існавала цяжкасьць чыста тэхнічная — як заклікаць да байкоту, калі няма выхаду на сродкі масавай інфармацыі. Толькі, на маю думку, справа ня ў тым, што не маглі, а ў тым, што ня бачылі патрэбы. Што верылі ў апошняе намаганьне, у яшчэ адну ўлётку з праграмай Фронту, у нейкі самы красамоўны доказ. На жаль, у апазіцыі пераважалі рамантыкі. Яны бачылі, што прэзідэнт заклікае закрэсьліваць усіх кандыдатаў, а зрабіць тое ж самае адносна рэфэрэндуму рука ў іх не паднялася. Ну як жа, абвінавацяць, што ня хочуць раіцца з народам. Параіліся... Толькі, па вялікім рахунку, супроцьстаяць рэфэрэндуму трэба было раней. Ідэя рэфэрэндуму ўзьнікла тады, калі прэзідэнт апынуўся заціснутым, з аднаго боку, заявамі аб непазьбежнай перамозе апазіцыі на парламанцкіх выбарах, з другога, катэгарычнымі заявамі аб яго нялдольнасьці вывесьці краіну з эканамічнага тупіка. Іншы разважлівы чалавек на гэта мала б рэагаваў. Ну, сапраўды, ва ўсім цывілізаваным сьвеце апазіцыя заяўляе тое самае, гэта — норма. Але ўсе эўрапейскія нормы ў нас дзейнічаюць з дакладнасьцю наадварот (апошні прыклад — галадоўка дэпутатаў). Таму наш выбарчык успрыняў напады на Лукашэнку, як напады на сябе асабіста. Прэзідэнт, які гэта адчуў, даў яму магчымасьць адказаць на абразу. Сьвяточная эйфарыя, фільм пра нянавісьць, абуджаная настальгія па мінулым толькі ўзмацнілі існуючы эфэкт. Гэта ўжо была справа, як кажуць, тэхнікі. Зараз можна суцяшацца маральнай перамогай, але вынікі паказваюць, што тэхнікай ўзьдзеяньня на масы апазіцыя так і не авалодала. Адкрыцьцем стала нават тое, што апроч Лукашэнкі ў народнай сьвядомасьці іншых "абаронцаў" проста няма. Апазіцыя ўзяла ў якасьці тарана тэзу пра тое, што жыцьцё ўсё пагаршаецца, а вынік атрымаўся адваротны: калі жыцьцё пагаршаецца, дык усе шчыльней станьма вакол "бацькі"! Зараз зразумела, што год пайшоў на разбурэньне вобразу Лукашэнкі, а трэба было ствараць яму альтэрнатыву.

### На што падыйдзе новы парламант

Калі праводзіць конкурс новых анэкдотаў, то я б на першае месца паставіў прэзідэнта з анэкдотам аб тым, што галасаваць ён ня будзе, бо ўсё роўна падмануць.

Новы парламант Лукашэнку вельмі патрэбны, бо стары сябе цалкам скампраматаваў, у гэтай "старой карэце" далёка не паедзеш. Сваю ўстаноўку "не галасаваць" прэзідэнт адрасаваў толькі тым, да каго ня прыдуць са скрыняй у хату. Так і адбылося: галасаваньне ў буйных гарадах амаль сарванае, вёска і малыя гарады (а гэта проста вялікія вёскі) ужо амаль вызначыліся. Апошнюю кропку паставіць другі тур. Ужо бачна, што дзьве трэці дэпутатаў ледзь-ледзь, але наскрабецца. Мы атрымаем невялічкія, па 15-25 чалавек флангі зь левых і правых і вялізарнае "балота", цалкам падпарадкаванае прэзідэнту. Сталіца застанецца амаль без дэпутатаў, бо выбары тут у большасьці акругаў не адбудуцца. "Магучая кучка" інтэлектуалаў, што насуперак усяму прабʼецца ў парламант, стане абʼектам абразаў і правакацыяў. Да таго ж, гэтых "вумнікаў" пачнуць перакупляць. Спрэчкі паміж правымі і левымі зноў будуць выстаўляцца народу як паказьнік імпатэнцыі дэмакратыі. Непапулярныя меры будуць праводзіцца праз парламант, а, скажам, усякая любімая ў нас барацьба з карупцыяй ці злачыннасьцю будзе манапалізаваная прэзідэнтам. Парламант пачне адчыняць нейкія форткі для бізнэса, прэзідэнт іх прычыняць, каб "спэкулянты ня жыравалі". І гэтак далей. Але ня гэта галоўнае, дзеля чаго патрэбны Лукашэнку новы паслухмяны парламант. Галоўнае — гэта дэнансацыя Белавежскіх пагадненьняў, якая адбудзецца адразу пасьля "капітуляцыі" Украіны. Пагадзіцеся, пакрыжаваць рашэньні 91-га года з тымі самымі людзьмі, якія за іх галасавалі, гэта магчыма, але сьмешна. Непрадбачліва. Такой справе патрэбны імідж народнага пераасэнсаваньня. Толькі новы, кастрыраваны парламант здолее выканаць гістарычную місію вяртаньня ў адзіную сямʼю савецкіх народаў. Што ж тычыцца выбараў увосень, ствараць ім перашкоды ніхто ня будзе. Дастаткова не карэктаваць закон аб выбарах, не зьніжаць ліміт удзельнікаў, і выбары стануць пастаяннай зьявай, а потым на іх забудуцца. Гэта ўжо рабілася апошнія пяць гадоў.

### Краіна

Калі быць прынцыповым, то слова "краіна" можна далей ня ўжываць адносна Беларусі, а абыходзіцца такімі словамі, як "рэспубліка", ці нават "асяродзьдзе", "навакольле". 14 траўня пажылыя людзі, што ішлі на рэфэрэндум, як на парад, ці ў апошні ў сваім жыцьці бой з ворагам, пазбавілі моладзь, сваіх нашчадкаў іх будучай краіны. Гэта быў сапраўдны аборт. Нават па бачных наступствах: гэтаксама маладая жанчына робіць выгляд, што зь ёй нічога не было, толькі крыху-крыху ў бакі водзіць, гэтаксама выкідае з-пад сябе нешта брудна-чырвонае.

Але хіба потым не наступаюць і боль пад сэрцам, і смутак, і жаль да ненароджанага дзіцяці, і нянавісьць да абставінаў, што прымусілі так зрабіць? Гэта, як у жыцьці. Пройдзе яшчэ пяць гадоў, мы будзем з-за дроту глядзець на Літву ці Эстонію і замест зьдзіўленьня іхнімі посьпехамі нас ахопіць нянавісьць — так ахоплівае яна жанчыну, што глядзіць на равесьнікаў свайго ненароджанага дзіцяці, якія ўжо бегаюць, ужо ходзяць у класы, ажаніліся, а яно так і не зрабіла ніводнага кроку. З цягам часу тых, хто задаволены такім ходам падзеяў, будзе ўсё менш, а расчараваных усё больш. Калі-небудзь, але моладзь запытае сваіх бацькоў: што ж вы нарабілі?

### Моладзь

У прынцыпе, асаблівых ілюзій мець ня варта: моладзь заўсёды выбірае пэпсі. А наша беларуская прыстасуецца да пэпсі любога разьліву. Але гэта толькі здаецца, што чатыры мінулыя гады прайшлі безвынікова. Ідэя незалежнасьці краіны ўвайшла ў крою некалькіх пакаленьняў жыхароў Беларусі. Скора гэтыя парасткі пачнуць зьнішчаць, вытаптваць, прапаноўваць на зьмену нейкае міфічнае славянскае адзінства ці яшчэ які палітычны прывід. Але тыя, хто ўвайшоў у сьвядомае жыцьцё ў гэтыя гады незалежнасьці, не забудуць тыя часы. Увогуле, кажуць, што нашыя палітычныя погляды фармуюцца ў пэрыяд найбольш камфортнага жыцьця. А хіба гэта былі дрэнныя гады для моладзі, калі яна магла рабіць усё, што хацела, магла сьмяяцца з любых куміраў, маліцца любым багам? Пройдзе час, і мінулыя гады незалежнасьці краіны стануць для гэтых "гультаёў" кропкай адліку. А зараз дадайце сюды тых адносна маладых дзеячоў, для якіх пазбаўленьне краіны незалежнасьці азначае крах амбіцыяў, планаў, проста немагчымасьць самарэалізавацца. Красамоўны прыклад — стаўленьне да рэфэрэндуму вядомага маладога палітыка Анатоля Лябедзькі. У свой час ён актыўна падтрымаў Аляксандра Лукашэнку ў расчышчэньні калідору для "новых імёнаў", а сёньня ў расчараваньні адзначае, что ня бачыць дзяржаўных інтарэсаў у рэфэрэндуме. Іх сапраўды там няма, бо рэфэрэндум задумваўся як сродак разбурэньня дзяржавы. Што ў такім выпадку чакае маладую палітычную эліту? Толькі роля на другім плане, якасьць правінцыяла ў імпэрыі. Канешне, як сьведчыць гісторыя, вопыт, частка здолее прыстасавацца, сёе-тое атрымае. Але некаторых не пераробіш, яны ўжо адчулі смак Свабоды. Як заўсёды, частка зь іх зьедзе за мяжу, частка пойдзе ў навуку ці ў вышэйшую школу, што ўжо сёньня і назіраецца. Яны рэалізуюцца ў сваіх вучнях, як тыя савецкія шасьцідзясятнікі, якія сталі духоўнымі бацькамі перабудовы. Супадзеньне гэтых пакаленьняў і створыць глебу для новай беларуская перабудовы. Магчыма, гэта будзе ўжо ня проста адраджэньне, а вызваленчы рух.

### Расея

Мяркую, ужо сёньня гаспадары Расеі запалоханыя. Яны нарэшце зразумелі, якога джына выпусьцілі з бутэлькі, калі далі Лукашэнку дазвол на рэфэрэндум. Разбураныя левы імпульс беларускага рэфэрэндуму зрушыў у той жа бок і расейскі палітычны маятнік. Настальгію па былых часах, як тую XX века, ужо ня стрымаць. Здаецца, не дапаможа ні чачэнскі "прэзэрватыў", ні пігулкі, зробленыя ў чарнамырдзінскім "нашым доме". Небясьпека для Ельцына ў тым, што з аднаго боку Расея зацікаўленая, каб нешта падобнае паўтарылі на Украіне, дзе чырвоныя таксама прагнуць рэваншу. З другога— вогнішча можа перакінуцца і на Расею, і тады не ўратуешся. Таму з часу, калі на Беларусі адбыўся рэфэрэндум, гадзіньнік ўключыўся для Ельцына. Пасьпее ён стварыць нешта такое, што дазволіць прыбдаць Беларусь і Украіну — ён пераможа і перадзе Лукашэнку і такіх як ён "нацыяналаў" у свой эскорт. Альбо абʼяднаньне зробяць чырвоныя, але безь яго. Хутка Лукашэнка будзе Ельцыну непатрэбны. Яму лепш будзе мець Лукашэнку ў якасьці легенды, зь якой ня трэба дзяліцца грашыма ці таннай нафтай. Расейская тэлезорка Дарэнка ўжо не саромеючыся разважае ў "Вэрсіях", як расейскі капітал будзе "осваивать" Беларусь, сьцьвярджае, што "политическое благополучие местных властей должно основываться на экономическом благополучии российских предприятий". Калі наш прэзідэнт нарэшце зразумее, што ён ўжо не гаспадар у сваёй краіне, будзе позна. Калі не пагодзіцца, што зь яго характарам магчыма, то... Як пазбаўляюцца ад марыянетачных прэзідэнтаў, добра вядома з вопыту тых афрыканскіх краін, дзе звычайнай стала зьмена сьцягоў. Посткаланіяльнае мысьленьне, што зробіш. Ад любові да нянавісьці, як вядома, адзін крок. Але я лічу, што наш — пагодзіцца. Ён жа яшчэ "молодой политик", у Лукашэнкі ўсё наперадзе. У тым ліку і любоў да яго апазіцыі.

## Назад у імпэрыю пад чырвоным сьцягам

**"Беларусь галасуе супраць дэмакратыі, за настальгію па Савецкім Саюзе і моцную руку", — так ацаніла вынікі беларускіх выбараў вядомая нямецкая газэта *Süddeutsche Zeitung*.**

Газэта піша: "Прэзідэнт Лукашэнка, былы саўгасны дырэктар, можа быць задаволены вынікамі рэфэрэндуму і выбараў. Яны спрацавалі на карысьць прэзідэнта. Лукашэнка нават паказаў народу, як трэба галасаваць: свой бюлетэнь ён перакрэсьліў. Тым часам палітычныя партыі, а сярод іх дэмакратычны БНФ, у перадвыбарчую кампанію ня мелі доступу да сродкаў масавай інфармацыі. Прэзідэнт жа мог шырока агітаваць толькі "за" па ўсіх чатырох пытаньнях рэфэрэндуму і атрымаў у выніку пераважнае адабрэньне.

Праз тры гады пасьля абвяшчэньня незалежнасьці Беларусь са сваім 10-мільённым народам застаецца краінай з моцна аслабленай нацыянальнай сьвядомасьцю. Доўгачасовае савецкае панаваньне цалкам зраўняла нацыянальныя пачуцьці. Са сваёй новай незалежнасьцю Беларусь няшмат змагла зрабіць. Структуры Саветаў, у якіх дамінуюць былыя камуністы, блакіравалі ўсе рэфармацыйныя пачынаньні. Нічога ня зроблена ў эканоміцы і за час кіраваньня папуліста Лукашэнкі.

Лукашэнка змог адцягнуць увагу ад свайго бясьсільля, зьвёўшы ціяперашнія цяжкасьці толькі да разбураных эканамічных сувязяў з Расеяй. Выправіць становішча ён паабяцаў народу праз эканамічны саюз дзьвюх дзяржаваў, зь якога вынікае і палітычны саюз. Масква стрымана рэагуе на спробы такога збліжэньня. Але гэта не перашкаджае Лукашэнку моцна прывязаць народ да палітыкі "Назад — у імпэрыю". Іншыя меркаваньні не прымаюцца да ўвагі.

Лукашэнка безьперашкодна зьвёў выбарчую кампанію да карыкатуры. Пад шыльдай "роўных магчымасьцяў" кандыдаты былі пазбаўленыя доступу да сродкаў масавай інфармацыі. Адначасова, з мэтаю дыскрэдытацыі палітычных апанэнтаў Лукашэнкі, па тэлебачаньні паказалі фільм, накіраваны супраць прадстаўнікоў БНФ, якіх абвінавацілі ў фашызме.

У атмасфэры бясьсільля, злосьці і настальгіі па савецкім мінулым большасьць выбаршчыкаў выказаліся за паварот ад незалежнасьці. Адначасова ўзьнікла жаданьне зноў падняць стары чырвона-зялёны сьцяг савецкай Беларусі".

**Скарочаны пераклад зь нямецкай**
**Алеся ДАШЧЫНСКАГА**

## Што думаюць у Літве

**"Мяне вельмі расчаравала тое, што людзі Беларусі, можна сказаць, адмовіліся ад сваёй дзяржавы, ад сваёй нацыянальнай спадчыны і пажадалі быць звычайнай правінцыяй Расеі", — так пракамэнтаваў вынікі беларускага рэфэрэндума дэпутат Сэйма Літвы Юзас Дрынгяліс у інтэрвію карэспандэнту "Белорусской деловой газеты".**

Лідар літоўскіх цэнтрыстаў дэпутат Сэйма Рамуалдас Озалас ацаніў сітуацыю наступным чынам: "Я думаю, што гэта вельмі пагрозьлівыя і сумныя падзеі. Уварваньне Расеі ў Беларусь такім чынам катастрафічнае для беларускай нацыі, якая спрабуе адрадзіцца і дэманструе адчайныя намаганьні, супрацiўляючыся далейшай русіфікацыі... У гэтых умовах спробы працягваць працэс адраджэньня Беларусі могуць набыць яшчэ больш крайнія формы. Таму мы зь вялікім шкадаваньнем ацэньваем вынікі рэфэрэндума, хоць спадзяемся, што ня ўдасца зламаць тых, хто верыць у будучыню беларускай нацыі, у магчымасьць добрасуседзкіх дачыненьняў зь Літвой".

***"Белорусская деловая газета"***

# Унутраная эміграцыя — лёс беларусаў?

### Наш сьцяг

Памятаю, як упершыню ўбачыў бел-чырвона-белы сьцяг над дзяржаўнай установай у верасьні 1991-га. Я стаяў на бруку вуліцы Савецкай і глядзеў на сьцяг. Падаў восеньскі дождж, а я ўсё ня мог адарвацца ад відовішча, яно мяне надзвычай узрушыла.

А на Новы год мы пачулі беларускія словы ад С.Шушкевіча і на экране прагарцавала Пагоня, замест абрыдлага “поздравления советскому народу” (з Масквы ад генсека).

Потым па дарозе на працу я кожны дзень бачыў наш сьцяг спачатку над райвыканкамам, потым над гар- і аблвыканкамам, што выклікала ў душы пачуцьці нацыянальнага гонару, проста шчасьця.

Зрэшты, я не сэнтымэнтальны чалавек, а цьвярозы рэаліст. Калі раней мне здавалася неверагодным абвяшчэньне дзяржаўным нашага сьцяга, дык цяпер я глыбока перакананы, што ён абавязкова будзе вернуты на ўсе флагштокі.

### Ціхая акупацыя

Калі я днямі ўбачыў над гмахам аблвыканкаму замест дзяржаўнага сьцяга лукашэнкаўскі, апроч абражанасьці, востра адчуў: гэта — чужы, ня наш. Проста кавалак тканіны, які не выклікае аніякіх пачуцьцяў нават у тых, хто за яго галасаваў. Чырвона-зялёны ня мае шанцаў. Лукашэнкаўскі электарат да яго абыякавы, яны проста разам ненавідзелі нашыя нацыянальныя сімвалы. А нянавісьць — пачуцьце не стваральнае. Усе гэтыя размовы пра тое, што народ прызвычаіўся за 70 год да савецкіх сімвалаў — лухта. Трэба было тады і вяртаць чырвоны сьцяг, а не БССРаўскі, які прыдумалі толькі перад сьмерцю тав.Сталіна. І ўвогуле ці мала да чаго народ прыцярпеўся? Бананаў, напрыклад, не было і туалетная папера ўвесь час заставалася дэфіцытам...

Супраць дзяржаўных сімвалаў прагаласавала менш за палову выбаршчыкаў, што лішні раз сьведчыць пра незаконнасьць вывешваньня чырвоназялёнага сьцяга. Ні адзін сьвядомы беларус не даруе прэзідэнцкаму “заўхозу”, які пасягнуў на нашую сьвятыню і парваў дзяржаўны сьцяг. Абавязкова прыйдзе час, калі ўсю гэтую хеўру будуць судзіць паводле беларускіх законаў за ўсё ўчыненае імі.

Яны не зразумелі, што дзяржава, якую яны атрымалі ў свае рукі, ня цацка, прызначаная для гульні. І адбылся, прычым у выглядзе гістарычнага фарсу, дзяржаўны пераварот. Рэспубліка Беларусь больш не існуе. А ёсьць замест яе “Советская Белоруссия” зь ейным сьцягам, гербам, гімнам (“Мы, беларусы, з братняю Русьсю...”) і на чале з “савецкім беларусам”.

Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, прачнуліся аднойчы ў чужой дзяржаве, якая выпала з гістарычнага працэсу. Лукашэнка кляўся на Канстытуцыі нашай краіны, ейным дзяржаўным сьцягу і гербе. Але гэта была юдава клятва. На жаль ён не дарос да ўсьведамленьня таго, што сьвет даведаўся пра новую дзяржаву, убачыўшы бел-чырвона-белы сьцяг і рыцара на гербавым шчыце. Назва краіны была непарыўна зьвязаная з сімваламі.

Ягоная памылка таксама ў тым, што ён абапёрся не на “мазгі” — інтэлект нацыі, а на “працоўных”, г.зн. на рукі, палова зь якіх ужо непрацаздольныя, бо належаць пэнсіянэрам. А тым больш ён ня здатны быў да таго, каб згуртаваць адных з другімі.

Такім чынам, частка насельніцтва палітычна вярнулася жыць у БССР, а другая частка не пажадала. А значыцца, Лукашэнка дасягнуў свае мэты — падзяліць грамадзтва на два варожыя лагеры. Апірышча Лукашэнкі — аморфная маса, “балота”. Нас жа зрабілі бясправнымі гледачамі. Што ж, паглядзім, як яны ўп’юцца ўладай, раскрадуць, распрададуць Беларусь, разваляць эканоміку... Але мы сваё слова яшчэ скажам.

### Чалавек бяз пашпарта

Лукашэнка атрымаў беларускі пашпарт з гербам Пагоня. А нам не давядзецца, хоць так хацелася. Але так заўсёды: атрымлівае той, хто ня варты. Нам, аднак, не прывыкаць. Адна “цікаўная” кантора пільнавала нас у часы СССР, пільнавала і потым, а тым больш будзе пільнаваць цяпер. Для нас, сьвядомых беларусаў, нічога не зьмянілася. Гэта лішні раз сьведчыць пра антыбеларускі характар улады, якая сёньня пануе на Беларусі. Антыпатрыёты — у пашане, патрыёты — пад пільным кантролем.

А чым, вы думалі, ўсё скончыцца? У краіне, у якой не было свайго гімну, сваіх мэдалёў і ордэнаў, сваіх абароненых межаў. Хай цяпер нашыя бізнэсмэны кусаюць сабе локці, калі шкадавалі грошай на незалежнасьць. Усё ў гэтым сьвеце каштуе грошай. Дагэтуль няма помніка ахвярам Чарнобыля, няма помніка ў Курапатах, гісторыя якіх цынічна абылгана ўсякімі замяталінымі. Затое з пампезнасьцю закладзены манумэнт героям савецка-афганскай вайны. І паўсюдна — у кожным дробным райцэнтры спакойна стаяць ленінскія статуі, а вуліцы называюцца Савецкімі.

### Пачынаем спачатку?

Помніцца, як на 1-м зьезьдзе беларусаў блізкага замежжа А.Баршчэўскі з Варшавы заклікаў пакланіцца нашай палітычнай эміграцыі, якая захавала для нас герб, сьцяг і праўдзівую беларускую мову. А потым быў зьезд беларусаў сьвету, на які прыехалі нашыя шаноўныя эмігранты і які Лукашэнка назваў нядаўна “паліцэйскім шабашам”.

Бяру ў рукі кнігу-інтэрвію Л.Пранчака “Беларуская Амэрыка”, якую складаюць гутаркі з эмігрантамі, запісаныя ўвосень 1992 году. Чытаеш і бачыш, што ўсё вярнулася назад, што ўсе праблемы і небясьпека засталіся надзёнымі.

Напрыклад, вось што гаварыў тады ў інтэрвію старшыня Беларуска-амэрыканскага Задзіночаньня А.Шукелойць: “І сёньня да мяне даходзяць вельмі балючыя весткі з Бацькаўшчыны. Аказваецца, што там ужо робяць крок назад. Напрыклад, Вярхоўны Савет прагаласаваў супраць рэфэрэндуму (аб роспуску Вярхоўнага Савету — **С.М.**). Гэта вельмі моцна падрывае аўтарытэт Беларусі ў вольным сьвеце і азначае, што Вярхоўны Савет ідзе ў кірунку аўтарытарнай улады, дыктатуры. І гэта ў той абстаноўцы, калі аднаўлена дзейнасьць камуністычнай партыі. Вельмі небясьпечная абстаноўка, якая можа прывесьці да дыктатуры. Дзіўна і трывожна чуць нам тут пра ўвядзеньне ў Беларусі двухмоўя. Гэта сьведчыць аб тым, што, як пішуць цяпер у Амэрыцы, Беларусь інтэгруецца ў Савецкі Саюз, як раней, а ў Расею”.

А вось радкі зь інтэрвію старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Язэпа Сажыча, доктара мэдыцыны: “Магчыма, мне лёс не дазволіць дачакацца таго часу, калі я змагу здаць свой мандат беларускаму ўраду на бацькаўшчыне. Але яшчэ ня час... Я рэальна гляджу на рэчы. Трэба было некаму несьці ідэю БНР. Мы, беларускі ўрад на выгнаньні, выконвалі гэтую функцыю: захавалі бел-чырвона-белы сьцяг, ”Пагоню” — дзяржаўныя сімвалы БНР і рэпрэзэнтавалі Беларусь у сьвеце. Маю надзею, што калісьці я змагу выступіць у новай Вярхоўнай Радзе Беларусі, сказаць пару слоў, пажадаць усяго добрага свайму народу, сваёй Радзіме”.

Што ж, у нармальных людзей так і бывае. Напрыклад, апошні эміграцкі прэзыдэнт Польшчы Рышард Качароўскі прыехаў зь Лондана і перадаў свае паўнамоцтвы Леху Валэнсу...

### І ўсё ж я веру...

Няма чаго дзівіцца, што другая спроба беларускага адраджэньня скончылася няўдала. Бальшавіцкая ўлада ніколі ўсур’ёз не дапускала магчымасьці самастойнага існаваньня ў нас нацыянальнай дзяржавы.

Усьцешваць цяпер можа хіба толькі адно. Калі раней мала хто памятаў, ведаў, а тым больш шанаваў нашыя сапраўдныя герб са сьцягам, дык цяпер яны маюць глыбокія карані. Іх добра ведае беларускі народ, нашы суседзі, увесь сьвет. Яны будуць жыць і самі, і іхныя выявы — на грошах, паштовых марках, дакумантах, у кнігах, фільмах і г.д. А значыцца будзе жыць і беларуская ідэя.

Калі раней Пагоня ды бел-чырвона-белы сьцяг былі амаль пахаваны бальшавіцкай уладай, дык цяпер яны ніколі ня згінуць, як бы не стараўся Лукашэнка мяняць пячаткі.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## За мяжой рэфэрэндум праігнаравалі

**Грамадзяне Беларусі, якія жывуць за мяжой, а сярод іх дыпламаты і супрацоўнікі прадстаўніцтваў, практычна праігнаравалі прэзідэнцкі рэфэрэндум.**

Як паведаміў намесьнік міністра замежных справаў М.Хвастоў, з агульнай колькасьці выбаршчыкаў (4551) удзельнічала ў рэфэрэндуме менш за палову (1346). Вынікі галасаваньня ня вельмі адрозьніваюцца ад агульных па Беларусі. Большасьць выказалася “за” па ўсіх пытаньнях. Найбольш цікавыя лічбы па другім і чацьвёртым пытаньнях. За зьмену сімволікі прагаласавалі 727 чалавек (супраць — 592). За наданьне прэзідэнту права распускаць парламант выказаліся 739 (супраць — 591). Зразумела, што такія лічбы наўрад ці ўзрадавалі прэзідэнцкую адміністрацыю.

Першы намесьнік міністра замежных справаў В.Цэпкала сказаў, што грамадзяне Беларусі ў ЗША выказаліся ў асноўным за бел-чырвона-белы сьцяг і герб Пагоню, а вось у краінах Балтыі і ў Расеі падтрымалі лукашэнкавы сімвалы. В.Цэпкала запэўніў, што ніякіх “преследований” у дачыненьні да дыпламатаў з боку прэзідэнцкай адміністрацыі не будзе. Аднак вынікі галасаваньня асобна па краінах у міністэрстве даць адмовіліся, а толькі паведамілі агульныя лічбы. У.Крывіцкі, старшыня Дрыбінскай выбарчай камісіі Магілёўскай вобласьці (менавіта да гэтай акругі былі прымацаваныя выбарчыя ўчасткі ў замежных краінах) выказаўся вельмі красамоўна: “Прэзідэнт сам разьбярэцца, хто як галасаваў”.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**



# Чачня: 200 гадоў вайны

Сітуацыя ў Чачні напачатку нагадвала бадзёрыя абяцаньні “запусьціць заводы” — да новага года з бандамі будзе пакончана! Аднак прайшло ўжо шмат часу, а ніякіх прыкметаў перамогі расейскіх войскаў над чачэнцамі няма. Вайна перакідваецца з адной мясцовасьці ў другую, ад адной фазы да другой. Нязьменным застаецца адно — штодзень ахвяры з двух бакоў...

У сродках масавай інфармацыі, у выступах палітыкаў, здаецца, дастаткова падрабязна асьвятляюцца ўсе бакі гэтай вайны... Але менавіта толькі гэтай! А зразумець прычыны вайны, прагназаваць яе вынікі, можна толькі прааналізаваўшы ўсё тое, што было раней. Між тым, гісторыя чачэнска-расейскага канфлікту старанна замоўчваецца. А ўжо ў наш час, пры памяці нашага пакаленьня, тут адбываліся падзеі, вартыя ўвагі.

На Паўночным Каўказе двухсотгадовую традыцыю мае джыхад — сьвяшчэнная вайна, упершыню распачатая чачэнцам шэйхам Мансурам супраць царскіх заваёўнікаў у 1783 годзе. Ён падняў супраць расейскіх войскаў ня толькі Чачню, але і ўвесь Паўночны Каўказ. У 1791 г. Мансура схапілі і ён памёр у турме, а горцы падпалі пад жорсткія рэпрэсіі.

Аднак ужо ў 1820 г. джыхад зноў быў аб’яўлены шэйхам Ісмаілам. За ім, у 1824 г., пачалося масавае паўстаньне Шаміля, якое працягвалася да 1859 г. Пасьля паразы Шаміля Чачня зноў паўстала ў 1877 г. Але і гэтае паўстаньне было жорстка падаўлена царскімі ўладамі, усе ягоныя правадыры павешаныя, тысячы чачэнцаў і дагестанцаў сасланыя ў Сібір...

Пасьля кароткага зацішша імам Чачні Наджмудзін у 1917 г. падняў паўстаньне супраць расейцаў — і супраць “белых”, і супраць “красных”. Кіраўніком паўстаньня стаў унук Шаміля Саідбек. У 1919 г. у Горнай Чачні была створаная самастойная дзяржава Эмірат Паўночнага Каўказа. З найбольшай сілай паўстаньне, якое ахапіла Чачню і Дагестан, палыхнула ў 1920 г., калі 11-я армія “красных”, якая заняла раўнінную частку Дагестана, праявіла жорсткасьць і непавагу да ісламу. І хаця агульная колькасьць узброеных паўстанцаў была адносна невялікая (да 9 тыс. байцоў), яны, скарыстоўваючы партызанскую тактыку, якую распрацаваў яшчэ Шаміль, пасьпяхова ваявалі супраць Чырвонай арміі, зьнішчалі цэлыя часткі. Напрыклад, у лістападзе 1920 г. быў цалкам зьнішчаны ўвесь узорны полк пяхоты, які насіў значную назву “Рэвалюцыйная дысцыпліна”. У студзені 1921 г. у Чачні быў акружаны і зьнішчаны кавалерыйскі полк Чырвонай арміі. Паўстаньне ўдалося падавіць толькі тады, калі бальшавікі супраць паўстанцаў кінулі 39 палкоў — пяхотных, кавалерыйскіх, артылерыйскіх, а таксама авіяцыю.

Аднак на гэтым бальшавікі не спыніліся. Пачаліся жудасныя рэпрэсіі, у тым ліку і супраць мусульманскага духавенства. У адказ горцы ў 1927 г. зноў паўсталі ў Дагестане, а ў 1929 г. у Чачні. Саветы вымушаныя былі пайсьці на ўступкі і аб’явілі амністыю, але паўстаньне заціхла толькі ў 1936 г.

І зноў-такі ненадоўга: наступнымі былі паўстаньні ў 1940-м і ў 1942-м гадах у Чачні і ў Інгушэціі. Пакарыць горцаў не ўдалося; тады ў Крамлі Сталіным (каўказцам!) быў прыняты план генацыду — у 1944 г. 800 тысяч чачэнцаў і інгушаў дэпартавалі ў Сібір. Але нават пасьля гэтага баі ў гарах працягваліся да 1947 года! Гэтых фактаў вы ня знойдзеце ні ў адным падручніку гісторыі, якія выдавалі пры камуністычнай цэнзуры...

Такім чынам, цяперашняя вайна ў Чачні — гэта не недарэчныя амбіцыі Дудаева. Гэта чарговы выступ супраць расейскага імпэрскага ўладарства. Не прынёс Каўказ славы расейскай зброі раней, не прынясе ні цяпер, ні ў будучым.

Інфармацыя для роздуму. Раней Чачню ўтаймоўвалі ўсёй Расейскай імпэрыяй. Затым — усім СССР. А цяпер Саюзу няма. Сама Расея з Чачнёй не справіцца. Значыцца, неабходны новы саюз?

**Д.РЫНДЗЮН**

# Ці пройдзе фашызм?

Паглядзеў па Беларускаму тэлебачаньню фільм "Нянавісьць. Дзеці хлусьні.". Мэта аўтараў і заказчыкаў фільма — абвінаваціць у фашызме Беларускі Народны Фронт і Беларускае Згуртаваньне Вайскоўцаў. Якія ж аргументы для гэтага прыводзяцца?

Напрыклад, нас палохаюць фашызмам у асобе паэта Славаміра Адамовіча. Але ж тое, што мы ўбачылі, ня так страшна, як брыдка, і трэба прыцягваць да адказнасьці адміністрацыю тэлебачаньня за тое, што дапусьцілі паказ гэтых кадраў. Акрамя таго, Адамовіч не зьяўляецца ні кіраўніком, ні ідэёлагам БЗВ, як тое можна было зразумець зь фільма.

Яшчэ адзін "аргумант": знак у выглядзе фрагмэнта беларускага нацыянальнага арнамэнту, што вісеў на шыі ў сябра БЗВ, здаўся аўтару фільма "падобным на свастыку". Але ж падобны арнамэнт ёсьць нават на лукашэнкаўскім "сьцягу".

Нават чалавеку недасьведчанаму відаць, што ўсё наўмысна звалена ў адну кучу. Дык чаму ж так хочуць зьняважыць беларускі нацыянальны рух? Каму гэта выгадна? Вось сапраўдная мэта аўтараў фільма і іхных гаспадароў: дыскрэдытаваць тых, хто можа супрацьстаяць рэальнаму фашызму, які рвецца да нас з Усходу.

Нагадаю, што менавіта сябры БЗВ і ўдзельнікі мітынгу БНФ у канцы мінулага года разагналі ў Менску зборышча маскоўскіх фашыстаў-баркашоўцаў і іхных менскіх прысьпешнікаў.

Дык ці пройдзе да нас фашызм? Першыя чатыры крокі насустрач яму мы зрабілі самі на рэфэрэндуме 14 траўня.

**Вінцэсь ЛІПСКІ**
**г.Менск**

# Кардынал распусьціў камісію

Пасьля прыняцьця ў 1991 годзе Закону аб мовах пачала паварочвацца да беларускай мовы і каталіцкая царква. Была створаная камісія па перакладзе літургічных і эвангельскіх тэкстаў. Напачатку ў склад камісіі ўваходзілі людзі, якія не зьяўляліся прафэсіяналамі у гэтай справе. Гэта прывяло да памылак, недакладнасьцяў у перакладах. Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк пачаў уводзіць у камісію прафэсіяналаў. У камісіі працавалі мовазнаўцы, а таксама ксяндзы са Слоніма, Наваградка, Горадні і Менску, якія добра ведаюць беларускую і польскую мовы. Дзякуючы працы камісіі загучала беларускае слова ў касьцёлах, мільёны людзей слухалі штотыдзень слова Божае па радыё.

І вось адбыўся рэфэрэндум. На другі дзень пасьля яго Уладзіславу Завальнюку зь Пінску патэлефанаваў Казімер Сьвёнтак і паведаміў, што камісія сваю працу скончыла, ён яе распусьціў, і што пераклады больш непатрэбныя.

Вельмі шкада, што каталіцкая царква на Беларусі першай адрэагавала на вынікі рэфэрэндуму. Цяпер сапраўды атрымліваецца роўны статус: беларуская мова ніколі не гучала ў беларускіх праваслаўных храмах, ня будзе гучаць і ў каталіцкіх.

**А.САКАЛОЎСКАЯ, загадчык катэдры беларускай мовы і літаратуры Менскага лінгвістычнага ўнівэрсітэту**
**А.ТРАЯНОЎСКІ, паэт-перакладчык**
**і іншыя члены Літургічнай камісіі**

# Журналістаў пазбавілі прэміі

Паважаная рэдакцыя газэты СВАБОДА, адчуваю неабходнасьць расказаць, як праходзіў рэфэрэндум у Пружанскім раёне.

Напярэдадні выбараў старшыня райвыканкаму С.Тарасевіч сабраў нараду з прадстаўнікамі, якія будуць прысутнічаць падчас галасаваньня на выбарчых участках. Пры гэтым кожнаму ўдзельніку нарады раздалі лістоўкі, у якіх было пазначана, як трэба галасаваць па пытаньнях рэфэрэндуму (па ўсіх пытаньнях трэба даваць станоўчы адказ). Дзе надрукаваная ўлётка, я ня ведаю, але да нас яе, відаць, прывезьлі з Берасьця.

У газэце "Раённыя будні" напярэдадні выбараў і рэфэрэндуму былі надрукаваны артыкул старшыні Пружанскай Рады ТБМ "Праверка годнасьці нацыі", дзе яе старшыня заклікаў сапраўдных беларусаў выказацца супраць першага, другога і чацьвёртага пытаньняў рэфэрэндума. Гэта вельмі не спадабалася "вэртыкальнаму" С.Тарасевічу, а таксама тое, як асьвятлялася ў раённай газэце сьвяткаваньне Дня Перамогі. Мясцовыя журналісты былі выкліканыя на паседжаньне райвыканкаму, дзе ім аб'явілі вымовы і пазбавілі прэміі за месяц. Што ж, сп.Тарасевіч добра засвоіў тактыку барацьбы з прэсай. На прэзідэнцкіх выбарах ён быў ярым прыхільнікам В.Кебіча, цяпер аддана служыць Лукашэнку. Хто будзе наступным?

Вось і маркуйце, ці маглі ў такіх умовах быць іншымі вынікі рэфэрэндуму ў Пружанскім раёне і ў рэспубліцы ў цэлым.

**Васіль ДЗЯЦЕЛ, г.Пружаны**

# За нас галасавалі іншыя

*Шаноўная рэдакцыя!*

Я, вучань 10 класа, рашуча пратэстую супраць вынікаў рэфэрэндума. Я ня ведаю ніводнага свайго равесьніка, які жадае, каб Беларусь зноў стала часткаю Расеі.

Асабліва моладзь ня можа пагадзіцца са зьменай сімволікі. Нам, маладым, жыць пад сімваламі камуністаў пярэчыць наш сьветапогляд. Мы пакуль ня маем выбарчага права і таму былі пазбаўленыя магчымасьці ўдзельнічаць у рэфэрэндуме. Але за нас вырашылі іншыя: пад якім сьцягам і гербам нам жыць на Беларусі, будаваць сваю дзяржаву. Я думаю, ніхто з моладзі не жадае зьмены сімволікі. Аднак у нас не пыталіся, ці хочам мы зьмяніць гістарычныя сімвалы Беларусі на штучныя.

Панове, супакойцеся! Савецтаў не вярнуць! Савецкія сімвалы ня вернуць СССР. Гэта — ілюзія. Мы ж, моладзь, праняесем у сваіх сэрцах Пагоню і беларускі сьцяг да сваёй сьмерці. І мы ня згодзімся жыць пад савецкімі сімваламі. Прашу надрукаваць мой ліст і спытаць у прэзідэнта: "Чаму з намі ніхто ня лічыцца?".

І яшчэ хачу нагадаць нашаму прэзідэнту вядомыя словы А.Лінкальна: "Можна падманваць увесь час частку народа, можна падманваць некаторы час увесь народ, але нельга падманваць увесь час увесь народ".

**Яўген ЛІТВІНОВІЧ, г.Менск**

*Добры дзень, паважаная рэдакцыя СВАБОДЫ!*

Паглядзела я фільм "Нянавісьць. Дзеці хлусьні." і не магу ўжо не напісаць вам.

Мне ўсяго 15 гадоў, але погляд на жыцьцё ўсталяваўся вельмі цьвёрда. Зараз крычаць над вухам амаль усюды: "Долой беларуский язык! Россия нас спасет!". Няхай. Але думка мая застанецца цьвёрдай і нязьменнай. Я зьбіраюся стаць настаўніцай беларускай мовы, а гэта значыць, што для мяне мая радзіма — незалежная Беларусь. Мой сьцяг — бел-чырвона-белы, а герб — Пагоня. Нічога іншага ў сваім жыцьці я ўявіць не магу і не змагу.

Калі ідзеш у школу, то кідаецца ў вочы наш родны сьцяг. На перапынку прыемна апынуцца на другім паверсе, дзе красуецца герб Беларусі — Пагоня. У кожным класе ёсьць куток "Наша Беларусь".

Можа "яны" думаюць, што пакажуць сваё кіно і пераканаюць людзей у няправільнасьці дзеяньняў БНФ? Дык жа няхай ведаюць, што мая вера яшчэ болей узмацнілася. Няхай больш паказваюць свае фільмы, бо, паглядзеўшы іх, мы становімся яшчэ больш аддадзенымі сваёй Беларусі.

Нам, маладым, патрэбна сьветлая і свабодная будучыня. Але мы, на жаль, яшчэ ня маем права голасу і сёньня наш лёс, нашую будучыню вырашаюць бабулі, якія ня могуць адрозьніць праўду ад хлусьні.

Але сэрца цьвёрда верыць, што Беларусь будзе жыць! Мы — беларусы! Мы павінны зьберагчы сваю дзяржаву.

**Ірына, вёска Мінойты**
**Лідзкага раёну**

# "Сатанінскі дзень"

Паважаная рэдакцыя!

Прапаную кароткі роздум пра тое, што адбываецца на Беларусі.

Вядома, што экстрасэнсы, парапсіхолагі ўжываюць такі тэрмін — "сатанінскі дзень". Маецца на ўвазе час, калі з космасу на зямлю ці на пэўнае яе месца ідуць згусткі адмоўнай энэргіі. Пад ейным уплывам парушаецца ўсталяваны рытм жыцьця. Землятрусы, цунамі, вялікія пажары і да т.п. адбываюцца менавіта ў такія дні.

Асабліва моцнае ўзьдзеяньне адчувае чалавек: на яго находзіць атупеньне, абыякавасьць, страх, пачуцьцё статкавасьці, агрэсіўнасьць, іншыя адчуваньні і памкненьні, якія на цьвярозую галаву не маглі ў яго ўзьнікнуць. У літаратуры прыводзяцца прыклады калектыўнага вар'яцтва з падобнай прычыны. Прычым пасьля, калі міне ўзьдзеяньне злой сілы, людзі ня могуць растлумачыць, чаму яны, насуперак логіцы, рабілі той ці іншы ўчынак.

Такія дні ці пэрыяды спэцыялістамі ў сваёй навуцы вылічваюцца загадзя, на некалькі гадоў наперад.

Узьдзеяньню "сатанінскай" энэргіі ў першую чаргу паддаюцца тыя, ад каго не пульсуе ўласная станоўчая энэргія, г.зн. у галаве і ў сэрцы няма высакароднай ідэі, агульначалавечых ідэалаў дабрыні, свабоды, самаахвярнасьці ў шырокім сэнсе, няма арганізаванасьці, а ёсьць эгаізм, "лянота мазгоў", нячыстыя памкненьні, карацей кажучы, чые інтарэсы не падымаюцца вышэй бруха і паясьніцы, а таксама адсутнічае сіла волі.

Грамадзтва, на працягу некалькіх пакаленьняў пазбаўленае духоўнасьці, губляе здольнасьць супрацьстаяць энэргіі зла.

Для роздуму: бальшавіцкая рэвалюцыя адбылася ў "сатанінскі дзень", выбары прэзідэнта Беларусі і рэфэрэндум — таксама ў "сатанінскі дзень". Путч у Маскве — у такі ж дзень. Чаму? Хто гэтага хацеў?

І вось ужо правая рука Лукашэнкі Ціцянкоў скідае гістарычны беларускі бел-чырвона-белы сьцяг, што лунаў над Домам ураду, а баранавіцкія "радетели восстановления СССР в прежних границах" пэцкаюць чырвонай фарбай сьцены: "Подняли красное знамя над рейхстагом — поднимем и над Кремлём!". Як бачым, пытаньне пра Беларусь у іх ужо вырашанае, можна пераможным маршам каціцца да Уладзівастока.

І тут мне на памяць прыходзіць анэкдот. Выйшла дзеўка замуж, нарадзіла дзіця. Цешацца маладыя. А цешча не палюбіла зяця. Дастала з панчохі грошы і прэ цераз хмызьнякі да чорта ў балота:

— Даражэнькі, дапамажы! Разьвядзі дачку, зрабі нявінным дзеўкаю і за другога замуж аддай.

— Няма праблемаў, — кажа чорт. — Грошы на лапу і ідзі дамоў, шый дачцэ шлюбны ўбор.

— А дзіця? — пытае цешча.

— Запхні туды, адкуль выйшла.

Нячыстая сіла зноў хоча запхнуць нас туды... Але з-за свайго "балотнага" мысьленьня ніяк не ўцямяць, што гісторыя ідзе па сьпіралі, а не па крузе, бо калі б яна ішла па крузе, то чалавецтва дагэтуль сядзела б у пячорах. "Назад ня прыйдзе хвалятая, што з быстрай рэчкай уцякае". Гэтая філасофская думка належыць Якубу Коласу.

Гістарычнае адраджэньне Беларусі можна на нейкі час затрымаць, але спыніць немагчыма, бо глыбінныя працэсы пачаліся. Гісторыя такая вясьпяна, што раней ці пазьней, а скажа і крывава-чырвоным, і чырвона-карычневым, і чырвона-зялёным, чырвона-зялёным: "А ну, сыйдзеце з дарогі, ня блытайцеся пад нагамі!"

Так што запхнуць туды, назад у камуністычнае мінулае, можна толькі ў анэкдоце.

І яшчэ для роздуму. На адчуваньні чалавека розныя колеры дзейнічаюць па-рознаму. Гэта добра ведаюць дактары, мастакі, псіхолагі. Экспэрымэнты паказалі, што калі зачыніць чалавека на пэўны час у пакоі, дзе усе сьцяны пафарбаваныя ў чырвоны, а дзьве`ў — зялёны, то чалавек пачынае вар'яцець. (Гэтак сама, як і ў колер хімічнасіні і цёмна-чырвоны. Прачытала гэта калісьці ў часопісе "Наука и жизнь".)

**Лідзія АНТАНОВІЧ,**
**68 гадоў, былая настаўніца,**
**г.Баранавічы**



# Чым пахне прафэсар Акулаў

Нядаўна прафэсар В.Акулаў у газэце камуністаў "Товарищ" у нататцы "Сколько стоят честь и достоинство А.Лукашука" паведаміў сваім таварышам па перакананьнях, што я выйграў судовы іск у абарону гонару і годнасьці супраць газэты "Политика. Позиция. Прогноз.". Пры гэтым прафэсара моцна засмуціў мой "нехрысьціянскі ўчынак": маўляў, аўтар публікацыі, якая стала падставаю для іску, памёр, а ісьцец крывазжэрна настойваў на сатысфакцыі.

Прафэсар хлусіць. Іск супраць аўтара артыкулу быў зьняты, а вось супраць выданьня — застаўся. Мне хацелася праверыць, ці можна ў прынцыпе прыцягнуць камуністаў да судовай адказнасьці. Праверка цягнулася два зь лішкам гады (ад сакавіка 1993 г.). Асноўная "заслуга" у гэтым належыць судзьдзі Ленінскага раёну Менска сп-ні Улевіч, якая месяцамі не разглядала справу, а потым увогуле закрыла яе і пайшла на заслужаны адпачынак. Менскі гарадзкі суд адмяніў рашэньне і новы судзьдзя выканала свае прафэсійныя абавязкі. (Паміж іншым высьветлілася, што "ППП" не была зарэгістраваная ў падатковай інспэкцыі і гадамі ўхілялася ад падаткаў — праўда, такія дробязі наша пільнае Міністэрства культуры і друку не цікавяць.) Суму ў 2 млн.руб. суд абавязаў выплаціць штотыднёвік "Мы и время", пад чыім крылом дзейнічала "ППП". Грошы будуць перададзеныя ахвярам камуністычных рэпрэсіяў.

Праф.Акулаў ацаніў урон, панесены таварышамі па партыі, як кошт чатырох машынаў гною. Маўляў, столькі можна прыдбаць за прысуджаную суму штрафу. Па-мойму, вучоны муж знача перабольшвае вартасьць самага перадавога вучэньня і недаацэньвае каштоўнасьць згаданага сапраўды карыснага ўгнаеньня. З тымі прынцыпамі, якія адстойвае прафэсар і К°, у гноя агульны толькі пах.

**Аляксандар ЛУКАШУК**

## Коні атруціліся ядахімікатамі

**19 траўня ў Гарадзенскай вобласьці самалёт сельгасавіяцыі Літвы парушыў дзяржаўную мяжу Беларусі.**

У гэты дзень літоўскі самалёт, які апрацоўваў свае палеткі ядахімікатамі, пераляцеў на 500 мэтраў на беларускую тэрыторыю і працягваў апыленьне. У гэтых месцах Гарадзенскай вобласьці былі зафіксаваныя факты гібелі буйной рагатай жывёлы і коней. У вёсцы Вожа, напрыклад, загінула 11 коней.

*СІМ*

## "Белы білет" купілі за даляры

**У Полацку ўзбудзілі крымінальную справу супраць начальніка траўматалагічнага аддзяленьня вайсковага шпіталя.**

Падпалкоўнік мэдыцынскай службы абвінавачваецца ў тым, што за хабар камісаваў двух салдат тэрміновай службы. Аднаму салдату, які праслужыў паўгода, ён за 500 даляраў паставіў дыягназ астэахандрозу, другому (за 200 даляраў і лядоўню) — плоскаступнёвасьць. Усяго ж за апошнія паўтары гады па рашэньнях Полацкага вайсковага шпіталя былі камісаваныя 14 ваеннаслужачых.

*СІМ*

## У турму бяз кветак

**Па прыгаворы Івейскага народнага суда на адзін год турэмнага заключэньня асуджаная жыхарка вёскі Сямёнкі Марыя Пятровіч, а таксама яе сын Генадзь.**

Яны займаліся рабаўніцтвам на могілках мястэчка Юрацішкі. Кралі там штучныя кветкі для продажу на рынку.

Тым часам у Ваўкавыску невядомыя асобы "прапалолі" клумбу ў цэнтры горада. За адну ноч там зьніклі ўсе цюльпаны.

**С.ВАЛОШКА**

## Сьвята-Нікольскі вяртаецца

**У Магілёве, пасьля некалькіх дзесяцігодзьдзяў забыцьця, зноў адчыніўся Сьвята-Нікольскі сабор — адзін з самых старых ва Усходняй Эўропе.**

Яго пачалі будаваць яшчэ ў канцы XVII ст. Пасьля рэвалюцыі сабор быў зачынены і выкарыстоўваўся як склад. Цяпер тут пачаліся рэстаўрацыйныя работы.

*СІМ*

## Мінная эпідэмія

**Небывалы перапалох быў у мінулую нядзелю у мікрараёне Расьлякі г. Ліды.**

Невядомая жанчына патэлефанавала ў краму №21 і паведаміла, што там закладзена міна і хутка магазін узьляціць у паветра. На шчасьце, званок аказаўся ілжывым. Па гэтым факце ўзбуджана крымінальная справа.

**С.ВАЛОШКА**

## Уся прычына ў мазуце

**У Ваўкавыскім раёне значна ўзрасла колькасьць захворваньняў на пэдыкулёз (вашывасьць) і часотку.**

Мэдыкі зьвязваюць гэта з тым, што людзям няма дзе памыцца. У раёне 51 грамадзкая лазьня, але 22 зь іх не працуюць — няма мазуты.

**В.Я.**

## "Прагрэс" на 16-ты дзень

**З машыннага двору калгасу "Прагрэс" Зэльвенскага раёну скралі трактар МТЗ-50.**

Калгаснае начальства толькі на 16 дзень заўважыла, што трактар зьнік.

**В.Я.**

## Лідзкае піва трымае марку

**У Рэчыцы адбылася дэгустацыя піва беларускай вытворчасьці.**

Найлепшай была прызнана прадукцыя Лідзкага бровара — "Стары замак", "Наша марка" і "Лідзкае". З такой высновай пагадзіліся таксама спэцыялісты з Літвы і Нямеччыны.

**С.ВАЛОШКА**

## Затрымана група рэкеціраў

**У Магілёве затрыманая злачынная група, якая займалась рэкетам прыватных прадпрыемстваў.**

Сьледзтва мае інфармацыю, што рэкеціры вымагалі грошы кіраўнікоў 8 фірмаў. Кіраваў групай нехта па мянушцы "Кашчэй".

*СІ*

## Тэатру было што губляць

**У Берасьці пасьля доўгага рамонту і перабудовы нарэшце адбылося ўрачыстае адкрыцьцё абласнога драматычнага тэатра.**

За сем з паловаю гадоў рамонту тэатар страціў лепшых актораў, сваю славу і... імя Ленінскага камсамолу.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

**На здымку: абласное начальства адкрывае тэатар. Зьлева направа: старшыня аблвыканкаму Уладзімер Заламай, старшыня аблсавету Віктар Бурскі, старшыня гарвыканкаму Аляксей Авечкін**



## Салют і гарэлка — гэта небясьпечна

**36 дарослых і 8 дзяцей атрымалі траўмы рознай цяжкасьці падчас беспарадкаў у Брэсцкай крэпасьці 9 траўня.**

Як і трэба было чакаць скончылася ўсё пошукам стрэлачніка. На спэцыяльным паседжаньні гарвыканкаму была адзначана адсутнасьць скаардынаванасьці ў дзеяньнях міліцыі, дырэкцыі мэмарыялу і аўтараў сцэнару сьвяточных мерапрыемстваў у крэпасьці. Гарвыканкам прызнаў нездавальняючай сваю работу, а таксама Ленінскага райаддзелу міліцыі, які павінен быў забясьпечыць парадак. У пошуках вінаватых абласная міліцыя правodзіць цяпер службовае расьсьледаваньне. А першы стрэлачнік ужо знойдзены: ім стаў дырэктар мэмарыялу "Брэсцкая крэпасьць" Павел Панасюк. Гарвыканкам зьвярнуўся ў Міністэрства культуры з прапановай вызваліць яго ад займанай пасады. Дарэчы, дырэктар мэмарыялу прапанаваў у будучым адмовіцца ад правядзеньня салютаў і мерапрыемстваў з гарэлкай у крэпасьці. Аднак мэр горада А.Авечкін заявіў, што сьвяты ў крэпасьці былі і будуць.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**



## Субота, 3 чэрвеня

**Беларускае тэлебачаньне**

8.00 Эканамікст.
8.10 Люстэрка Сі-эн-эн.
8.25 Скрыжалі. Ігнат Дамейка.
8.30 Скарбы. Перадача з Гомля.
8.50 Выпускны экзамен па беларускай і рускай мове за курс базавай школы.
9.00 Футбол. Чэмпіянат Беларусі. "Дынама" (Берасьце) — "Дынама" (Менск). 2-і тайм.
9.50 Здароўе. Тэлечасопіс.
10.20 "Лулу - анёл кветак". Мультсэрыял.
10.50 "Пра што сьпяваюць жаўранкі", тэленарыс.
11.20 "Чацьвертае вымярэньне". Духоўна-асьветніцкі канал.
12.10 Студыя "Эксклюзіў". Адвакат. Правы чалавека.
13.10 "Пасьля 2000 году". Навукова-папулярны сэрыял (Аўстралія).
13.35 "Яшчэ планэта не астыла..." Да 60-годзьдзя Васіля Зуёнка.
14.05 Мілагагучча.
14.35 "Залатая ліра" ў Шклове, ч.1-я.
15.35 "Крок". КВЗ.
16.15 Тэлекрама.
16.25 Тэлеконкурс маладых артыстаў. Магілеўскі тур. Перадача 10-я.
17.20 Фінансавы час.
17.35 Тэатар песьні Ядзьвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча.
18.35 SOS.
18.40 "Трапічная сьпёка".
19.40 Суботнік . Гумарыстычная праграма .
20.00 Міжнародныя спартовыя навіны.
20.35 Калыханка.
21.00 Рэзананс.
21.45 "Нов і К"-топ.
22.25 "Расейскі транзіт", м/ф с.2.
23.25 Шоў-прагноз.
23.30 Пад купалам Сусьвету .
23.40 Відзьма-нявідзьма".

**1 канал**

6.30 Тэлераніца.
7.45 Мітрапаліт Кірыл.
8.00, 14.00, 0.15 Навіны.
8.20 Кліч планэты.
8.50 "Сакрэты майго лета".
9.25 Ранішняя пошта.
10.00 Смак.
10.15 Здароўе.
10.50 Правінцыя.
11.20 "Таня", м/ф.
13.15 Канцэрт народнай музыкі.
13.25 Люстэрка.
14.20 Вялікія гонкі.
14.50 "Будзь праклятая вайна", д/ф.
15.40 У сьвеце жывёл.
16.15 Сьмехапанарама.
17.00, 20.00 Час.
17.20 Брэйн рынг.
18.05 Луі дэ Фюнэс в кінакамэдыі "Жандарм на шпацыры".
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 "Прыгоды прыватнага дэтэктыва Нэстара Бурмы".
21.30 Што? Дзе? Калі?
22.35 Адкрыцьцё міжнароднага кінафэстываля "Кінатаўр-95".
23.45 Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.

**Канал "Расея"**

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.20 Зоркі гавораць.
7.30 Ад вінта.
7.45 Пілігрым.
8.30 "Музыка адзінокай душы". С.Губайдуліна.
9.00 Парламанцкі тыдзень.
9.45 "Сьняданак для чэмпіёнаў".
10.15 Як жыць будзем?
11.00 "Тры мушкецёры ў раёне Чырвонай ракі", м/ф.
12.00 Суайчыньнікі.
12.40 Сялянскае пытаньне.
13.20 Дэ факта.
13.35 "Мэгрэ і зусім самотны чалавек", м/ф ч.1.
14.25 Футбол бязь межаў.
15.05 А.Таркоўскі.
15.50 Зоркі Амэрыкі.
16.20 Сьвята кожны дзень.
16.30 "Дом на востраве". Відэафільм.
17.00 Лепшыя гульні НБА.
18.00 Шарман-шоў.
19.25 "У чацьвер і больш ніколі".
21.05 Зусім сакрэтна.
22.30 Рака часу.
22.35 Аўтаміг.
22.40 Поўня.

**Санкт-Пецярбург**

6.30 Хрыстос ва ўсім сьвеце.
7.00 Добрае раніцы.
8.30 Жыўцом...
10.00 Стыль жыцьця.
10.15 "Эўрапейскі калейдаскоп".
10.45 Рандэву з "Наўцілусам".
11.15 "Маладыя, прыгожыя, магчыма, багатыя", м/ф (Італія).
12.40 "Жырандолі Эрмітажа". Тэлефільм.
12.55 Тэлевізійная служба працаўладкаваньня.
13.15 "Адзіная", м/ф.
14.55 "А ў хаце паліцца печ", д/ф.
15.25 "Тэнтэн і возера акулаў", мульт. (Францыя).
16.40 Рэтра-канцэрт.
17.00 Зебра.
17.50 Эканоміка і мы.
18.05 Тэлебліц.
18.10 Вялікі фэстываль.
18.30, 21.40 Інфарм ТВ.
18.50 "Чалавек, які не хацеў паміраць", м/ф (Італія).
20.20 Галгофа.
20.50 "Тэлекампакт" прэзэнтуе...
21.20 Наабум.
22.00 Тэлеканал "Ня хочаш — не глядзі".
23.00 Крыштальны ключ. Фэстываль відэакліпаў.
23.20 "Замак Пампон Руж".

## Нядзеля, 4 чэрвеня

**Беларускае тэлебачаньне**

8.00 "На схілах старога вулкана", д/ф.
8.15 Спортпляцоўка.
8.40 "Тэлебом".
9.50 "Конан і ягоныя маладыя байцы". Мульт.(ЗША).
10.20 "Чараўнік Лад і сем прынцэсаў". Муз. казка.
10.35 Студыя "Калыханка". Мультклуб.
11.00 Урокі Н.Наважылавай.
11.30 "Віктар Тураў", д/ф.
12.05 Падарожжы, сустрэчы, адпачынак.
12.25 "Усё нармальна, мама!"
12.55 Арсэнал. Праграма для вайскоўцаў.
13.25 "Творцы".
13.50 "Пасьля Перамогі". Дак. сэрыял.
14.35 Сітуацыя.
15.10 Аўта-парк.
15.25 Тэлеклуб "Гаў-гаў".
15.50 Пераможца. Спартова-забаўляльная праграма.
16.10 Тэлекрама.
16.20 "Пад сузор'ем каханьня".
17.25 Стыль.
17.45 "Экспэдыцыя". Навукова-папулярны сэрыял (Вэнэсуэла).
18.15 Абібок.
18.35 "Пад сузор'ем каханьня".
20.00 Навіны.
20.35 Калыханка.
21.00 "Каралеўскае паляваньне".
21.45 "Ідэальная пятніца", м/ф (Вялікабрытанія).
23.25 Шоў-прагноз.
23.30 Клуб "Куфаль", ці тоесёе пра піва.
23.55 Пад купалам Сусьвету.

**1 канал**

6.30 Тэлераніца.
7.30 Алімпійская раніца.
8.00, 14.00, 23.35 Навіны.
8.30 Раным-зрана.
9.00 Мультфільм.
9.15 Пакуль усе дома.
9.45 Ранішняя пошта.
10.30 Служу Расеі.
11.05 Жывое дрэва рамёслаў.
11.10 Сусьветная геаграфія.
12.05 Уся Расея.
12.35 Сьвята славянскай пісьменнасьці і культуры ў Белградзе.
13.05 Пад знакам "пі".
13.45 Спорт у абед.
14.20 "Нерухомае толькі сонца каханьня". А.Эшпай.
15.10 Клуб падарожнікаў.
16.00 Вакно ў Эўропу.
16.30 "Флона на чароўным востраве". Мульт.
17.00 Час.
17.20 Усьмешка Армэна Джыгарханяна.
18.00 Адзін на адзін.
18.30 "Цэнтар цыклону". Муз. праграма.
19.15 "Уцёкі", м/ф (Францыя).
21.00 Нядзеля.
21.45 "Прыгоды прыватнага дэтэктыва Нестара Бурмы".
22.30 Каханьне зь першага погляду.
23.05 Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.

**Канал "Расея"**

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.20 Зоркі гавораць.
7.30 Мульты-пульты.
7.40 Першы дубаль.
7.55 Залаты ключык.
8.10 Вялікі хакей.
8.50 Ніхто не забыты.
8.55 Музыка ўсіх пакаленьняў.
9.25 Аты-баты...
9.55 Кансалідацыя.
10.00 Расейскае лата.
10.45 "Маленькі паганяты сланоў", м/ф.
12.10 Зураб Саткілава прэзэнтуе...
12.40 Сялянскае пытаньне.
13.20 "Мэгрэ і зусім самотны чалавек", м/ф.
14.10 Каробка перадачаў.
14.25 Белая варона.
15.10 "Паляўнічыя раўніны", д/ф.
16.05 Гумар плюс гумар.
16.45 Сьвята кожны дзень.
17.00 "Русалачка", "Новыя прыгоды Віні Пуха".
18.00 Багема. М.Міронава.
19.25 "Оскар", м/ф (ЗША).
21.25 У Ксюшы.
22.30 Рака часу.
22.35 Аўтаміг.
22.40 Крама сусьветаў.

**Санкт-Пецярбург**

6.00 Гэта ваш дзень.
6.30 Праграма-богаслужэньне.
7.00 Добрай раніцы.
8.30 Жыўцом...
10.00 Стыль жыцьця.
10.15, 21.20 "Паглядзім". Анонс тэлепраграм.
10.30 Рэтра. Сьпявае Э.П'еха.
11.00 Нядзельны лабірынт.
12.35 "Вялікі прыём у Палацы". Тэлефільм.
12.50 "Панарама Нямеччыны. Вісбадэн". Тэлефільм.
13.50 Вершы С.Ясеніна чытае Б.Галкін.
14.10 Класіка-5.
14.50 Слова дэпутатам.
15.20 "Пластылін". Тэлефільм.
15.50, 21.10 Музычны момант.
15.55 Казка за казкаю.
16.40 "Парад парадаў" прэзэнтуе... Валерый Меладзэ.
17.25 Чэмпіянат Італіі па футболе.
19.20 Праграма тэлевечара.
19.30, 21.40 Інфарм ТВ.
19.50 "Грэх", м/ф.
22.00 Адам і Ева +.

Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 25.5.95 (3.30). Надрукавана ў Аршанскай друкарні (г.Ворша, вул.Замкавая, 3).  Наклад 93 000